# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

20 сакавіка 2020 года №12 (1299)

18+




З Днём Волі!





# «Парушыў, бо дзеці хварэюць»

## ДАІ правяла рэйд з «Рэгіянальнай газетай»

старонка 8

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## Таршэр

Алеся Каролік

старонка 20

## Як каранавірус змяніў жыццё ў гарадах рэгіёна

старонка 2

## Чаму ў 1918 годзе Беларусь не стала незалежнай краінай

старонка 21


ISSN 1991–7155








Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# Адмянілі масавыя мерапрыемствы ў гарадах, павесілі аб'явы ў школах

## Як пандэмія каранавіруса змяніла жыццё ў рэгіёне

**У Мядзеле не правялі запланаванае мерапрыемства да 80-годдзя раёна з удзелам старшыні Мінаблвыканкама, у Маладзечне адмянілі ўсе мерапрыемствы традыцыйных тыдняў Германіі ў Беларусі. Якія яшчэ змены ўнесла пандэмія каранавіруса ў гарадах рэгіёна?**




Такая аб'ява з'явілася ў адной са школ Маладзечна.

### Адмянілі масавыя спартыўныя мерапрыемствы для дзяцей

У Ашмянах, Смаргоні і Астраўцы ўпраўленне спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама адмяніла міжнародныя, рэспубліканскія, абласныя, раённыя, гарадскія і іншыя спартыўна-масавыя мерапрыемствы з удзелам дзяцей і падлеткаў. Забарона на правядзенне дзейнічае ад 16 сакавіка да 6 красавіка.

Таксама ў гэты перыяд адмяняюцца спартыўныя мерапрыемствы і вучэбна-трэніровачныя зборы з удзелам замежных спартсменаў у Гродзенскай вобласці і выезды спартсменаў і камандаў з Гродзенскай вобласці для ўдзелу ў спартыўна-масавых мерапрыемствах за мяжой. Адмянілі турніры і ў Маладзечанскім лядовым палацы.

Гэтыя абмежаванні не тычацца спартыўна-масавых мерапрыемстваў асярод дарослага насельніцтва. Абмежаванні з'яўляюцца прафілактычнымі і носяць часовы характар.

### У Вілейскай ЦРБ не праводзяць медагляды, у Маладзечне працуе «гарачая лінія»

У Вілейскай ЦРБ прафілактычныя меры ад каранавіруснай інфекцыі таксама прынялі. Згодна з загадам галоўнага доктара Вілейскай ЦРБ ад 3 сакавіка, ад панядзелка, 16 сакавіка, у паліклініцы адмяняюцца камісіі кіроўцы, папярэднія медагляды, планавыя абследаванні – ультрагукавое, фібрагастрадуадэнаскапія, фібракаланаскапія. Час, да якога працягнецца забарона, вызначаць пазней, паведамілі ў Вілейскай ЦРБ.

> **Ад 16 сакавіка з'явіліся навуўвядзенні і ў Маладзечанскай ЦРБ. Тут будзе працаваць «гарачая лінія» і дыстанцыйны кругласутачны медыцынскі пост.**

Новаўвядзенні з'явіліся для таго, каб узмацніць мерапрыемствы па папярэджанні распаўсюджвання каранавіруснай інфекцыі ва ўстановах аховы здароўя.

«Гарачая лінія» і дыстанцыйны кругласутачны медыцынскі пост інфармуюць і кансультуюць насельніцтва на перыяд неспрыяльнай эпідэміялагічнай сітуацыі. Кантактны тэлефон – (8 176) 55 96 11. І «гарачая лінія», і медыцынскі пост будуць працаваць да асобага распараджэння.

Як паведамілі ў Мядзельскім райвыканкаме, у Мядзеле адмянілі ўрачыстае мерапрыемства да 80-годдзя раёна з удзелам старшыні Мінаблвыканкама **Аляксандра Турчына**. Свята планавалі на 14 сакавіка.

### На мяжы – чэргі, маладзечанская міліцыя не прымае грамадзян

Падчас пандэміі вялікія чэргі на мяжы Літвы і Беларусі. У пункце пропуску Каменны Лог у чарзе адначасова могуць стаяць больш за шэсцьсот фур.

Кіраўніцтва Маладзечанскага РАУС часова спыніла асабісты прыём грамадзян, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**. Задаць пытанні можна па тэлефонах ва ўстаноўленыя прыёмныя гадзіны.

У бальніцах рэгіёна з'явіліся першыя кантактныя. Чатырох памежнікаў з Каменнага Логу назіраюць у Ашмянскай ЦРБ, двух дальнабойшчыкаў – у Смаргонскай.

### У школах – аб'явы, у крамах – антысептыкі

У школах Маладзечна з'явіліся аб'явы пра тое, што трэба часцей мыць рукі з мылам і кашляць у сурвэтку або згіб локця. У шматлікіх крамах горада – антысептыкі пры ўваходзе.

Інфармацыя з некаторых інтэрнэт-парталаў пра магчымы перанос вясновых канікулаў у школах на тыдзень раней не пацвердзілася. 17 сакавіка міністр адукацыі **Ігар Карпенка** афіцыйна заявіў, што для пачатку канікулаў на тыдзень раней няма ніякіх падстаў.

Нагадаем таксама, што ўсе краіны-суседкі Беларусі закрылі межы, а ў Мінску адмянілі масавыя мерапрыемствы, у тым ліку навучальныя трэнінгі. Таму мы і некаторыя нашы калегі – пакуль без навучання і камандзіровак.

### Закупляюць крупы і кансервы

Па інфармацыі Міністэрства антыманапольнага рэгулявання гандлю, значна ўзрос попыт на макарону, крупы, рыбныя, мясныя і малочныя кансервы, алей, гаспадарчае і туалетнае мыла, запалкі, туалетную паперу, чай, каву, санітарна-гігіенічныя сродкі, свежую рыбу, масла, пшанічную муку, соль, курыныя яйкі, сыр, малако, кефір, свежыя яблыкі, дзіцячае харчаванне.

У крамах Маладзечна пустых паліц мы пакуль не назіралі. А вось у адным з буйных гандлёвых цэнтраў Маладзечна 18 сакавіка не працавалі рассоўныя дзверы, якія ва ўмовах неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкі былі б вельмі дарэчы.

І ўсё ж для некаторых нашых чытачоў каранавірус жыццё асабліва не змяніў. Напрыклад, для **Аляксандра Дарашэвіча**, што жыве на хутары на Астравеччыне.

– Жывучы ў лесе на хутары, мы заўсёды закупляемся прадуктамі на доўгі тэрмін, – кажа Аляксандр. – Купляем шмат мукі, бо хлеб пячом самі. А гарбата ў нас свая – з іван-чаю. Адчуваю пэўны дыскамфорт, нібы і мы ўключаемся ў гэту гісторыю. Увогуле, у плане прадуктаў нам прасцей, бо мы – вегетарыянцы. Тым больш, вясна прыйшла.



Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Фота joomania.info.

Будзьце ўважлівыя, калі купляеце тавары праз інтэрнэт.

# Як бяспечна рабіць пакупкі праз інтэрнэт

**Усё з большай актыўнасцю спажыўцы выкарыстоўваюць лічбавыя тэхналогіі. Гэта змяняе характар многіх паслуг і прадуктаў.**

Аплачваць анлайн тавары, жыллёва-камунальныя паслугі, мабільную сувязь, інтэрнэт, білеты для многіх стала звыклай справай. Аднак разам з тым неабходна забяспечваць правы спажыўцоў на свабоду выбару тавару або паслугі і атрыманне дакладнай і праўдзівай інфармацыі пра тавары або паслугі выканаўцаў, прадаўцоў. Гэта інфармацыя павінна быць у зразумелай форме. Такім чынам пакупнік прыме ўзважанае рашэнне, ці купляць тавар, заказваць паслугу ці працу.

**Зручнасць пакупкі тавараў праз інтэрнэт звязаная, у першую чаргу, з тым, што заказ можна атрымаць там, дзе пакупнік знаходзіцца, а часам і па больш нізкай цане.**

У час развіцця электроннай камерцыі нядобрасумленныя ўдзельнікі рынку выкарыстоўваюць прававую неадукаванасць спажыўцоў, каб атрымаць максімум выгады. Гэта шкодзіць эканамічным інтарэсам не толькі спажыўцоў, але і добрасумленным суб'ектам гаспадарання.

**Асноўная асаблівасць дыстанцыйнага гандлю ў тым, што пакупнік не можа азнаёміцца з таварам або ўзорам да таго моманту, як купіць. Пакупнік знаёміцца з таварам праз каталог, буклет, фота.**

Вырашэнне спрэчак, звязаных з электронным гандлем, можа патрабаваць значных затрат часу, грошай і высілкаў. Часта спажыўцы нават не спрабуюць вырашыць спрэчкі, асабліва пры невялікай суме здзелкі. Гэта вядзе да зніжэння даверу і ўпэўненасці ў электронным гандлі і да іншых анлайн-паслуг.

**Часта пакупнікі не выкарыстоўваюць тыя ж правы, што існуюць па заканадаўстве краіны, у якой жыве пакупнік.**

### Што трэба ведаць пра пакупкі праз інтэрнэт

Пры выбары тавараў уважліва прачытайце інфармацыю на сайце інтэрнэт-магазіна. На галоўнай старонцы сайта інтэрнэт-магазіна прадавец павінны даць на беларускай або рускай мове наступныя звесткі пра сябе: назва арганізацыі, месца знаходжання, УНП, рэжым працы інтэрнэт-магазіна, дату рэгістрацыі інтэрнэт-магазіна ў гандлёвым рэестры, спосабы аплаты тавараў і іх дастаўкі.

**На сайце інтэрнэт-магазіна павінна быць інфармацыя на беларускай і рускай мовах пра тавары: назва тавару, найменне і месца знаходжання вытворцы, найменне і месца знаходжання пастаўшчыка або прадстаўніка, краіна паходжання тавару, гарантыйны тэрмін, калі ёсць, цана ў беларускіх рублях, умовы аплаты і дастаўкі.**

Пры пакупцы рэкамендуем захаваць адрас інтэрнэт-старонак, на якіх ёсць інфармацыя пра прадаўца.

### Як аплачваць

Прадавец абавязаны даць права пакупніку выбіраць форму разліку за тавар – наяўную або безнаяўную. Прадавец не можа ўстанаўліваць на адзін і той жа тавар розныя цэны ў залежнасці ад формы аплаты тавару.

**Але прадаўцы могуць даваць скідкі і іншыя формы стымуляцыі продажаў і разлікаў у безнаяўнай форме.**

Пры дастаўцы тавару раім супаставіць інфармацыю з сайта аб прадукце і прадаўцы. Перад падпісаннем дакументаў і аплаты ўважліва іх прачытайце.

**Паводле аддзела гандлю і паслуг Маладзечанскага райвыканкама.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.03 | 19.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.3141 | **2.4413** |
| Еўра | 2.6214 | **2.6540** |
| Злоты, 10 | 6.0624 | **5.9860** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2363 | **3.1575** |
| Грыўня, 100 | 9.0157 | **8.9325** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 11.03 | 18.03 |
| Еўра | 2.5700/2.6700 | **2.6600/2.7600** |
| Долар ЗША | 2.2700/2.3700 | **2.4400/2.5200** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 11.03 | 18.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,88 | **22,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,78 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **15,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,60 | **1,90** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,20 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 8,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,70 | **3,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 6,00 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | **1,85** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## З кватэры жыхаркі Куранца скралі грошы

**ВІЛЕЙКА**

14 сакавіка ў Вілейскі РАУС звярнулася жыхарка Куранца. Яна паведаміла, што нехта залез у яе кватэру і скраў грошы.

Па словах жанчыны, невядомы дастаў аконную раму і ўлез у кватэру ў перыяд часу ад 8:00 да 11:50. У гэты час гаспадыня была ў царкве.

Падазраванага ў крадзяжы затрымалі. Ім аказаўся 52-гадовы мясцовы жыхар, паведамілі ў Вілейскім РАУС.

Затрыманы расказаў, што ў гэты ж дзень ён заходзіў да пацярпелай. Убачыў, што ў кватэры ёсць спіртное. Калі жанчына сышла з дому, фігурант дастаў раму і залез у кватэру. Акрамя спіртнога, знайшоў яшчэ і грошы – 550 рублёў. Іх таксама забраў.

Вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль збіў жанчыну. ДАІ шукае сведкаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанская ДАІ шукае відавочцаў і сведкаў ДТЗ.

16 сакавіка прыкладна а 7:20 на вуліцы Канстанцыі Буйло ў Маладзечне кіроўца, меркавана на аўтамабілі «Форд-Ф'южн», збіў жанчыну. Пацярпелая перасякала вуліцу ў неналежным месцы дарогі, паведаміў старшы інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Барташ**.

Жанчына атрымала цялесныя пашкоджанні. Ёй аказалі медыцынскую дапамогу на месцы, шпіталізацыю не праводзілі.

Маладзечанская ДАІ праводзіць праверку па факце ДТЗ. ДАІ просіць сведак звярнуцца на нумар 102.

**Аддзел інфармацыі.**

## Памерла жанчына, што пацярпела на пажары ў канцы лютага

**МЯДЗЕЛ**

Пра гэта расказала інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**.

Нагадаем, што пажар здарыўся ў вёсцы Дзягілі Слабадскога сельсавета 22 лютага. Гаспадар быў на працы, а дома заставалася яго 59-гадовая сужыцельніца.

Па словах Ірыны Карапецян, жанчына сама выпаўзла з дома. Але атрымала апёкі галавы, шыі, тулава, кісці. Усяго – 22% апёкаў. З дыягназамі апёкавая хвароба і апёкавы шок пацярпелую забралі ў бальніцу.

15 сакавіка жанчына памерла. Праводзяць судова-медыцынскую экспертызу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віляйчанку падазраюць у занятках прастытуцыяй

**ВІЛЕЙКА**

Днямі ў Вілейскі РАУС паступіла інфармацыя пра тое, што жыхарка Вілейкі аказвае інтымныя паслугі за грошы.

16 сакавіка віляйчанку затрымалі на вуліцы, у адным з мікраёнаў горада, і даставілі ў РАУС.

– Жанчына працавала на выездзе, месца шукаў кліент. Мужчын фігурантка шукала па сацсетках, – расказаў карэспандэнту оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Вілейскага РАУС **Вадзім Бурак**.

За свае паслугі жанчына брала ад 50 да 100 рублёў.

Фігурантка нідзе не працуе. Матэрыялы па справе накіраваныя ў суд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ад запаленай травы загарэліся будматэрыялы ў вёсцы Баяры

**МАЛАДЗЕЧНА**

16 сакавіка каля 16:00 у вёсцы Баяры Красненскага сельсавета гарэлі складзіраваныя будаўнічыя матэрыялы.

Прычыну пакуль высвятляюць. Спецыялісты мяркуюць, што пажар мог здарыцца з-за выпальвання сухой расліннасці.

Як паведамляюць у Маладзечанскім ГРАНС, выкарыстоўваючы агонь для навядзення парадку на сваім участку, спальваючы смецце, людзі атрымліваюць тэрмічныя апёкі, пазбаўляюцца прытулку. Агонь на прысядзібным участку ці проста паблізу будынкаў можа стаць прычынай узгарання і нанесці шкоду, а то і цалкам знішчыць пабудовы або прыпаркаваны недалёка транспарт.

Полымя цяжка спыніць. Незаконнае выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальвання цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад 270 да 1080 рублёў.

Пры пажары выклікайце выратавальнікаў па тэлефонах **101** або **112.** Апавясціце суседзяў, эвакуіруйце людзей і жывёл, пачынайце тушыць пажар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Падчас праверкі адной з гаспадарак.

Фота УУС Гродна.

# Алкатэстар сапсаваўся, машыны запраўляюцца з вядра

### Якія парушэнні знайшлі ў гаспадарках рэгіёна

**СМАРГОНЬ**
**АШМЯНЫ**
**АСТРАВЕЦ**

**Міліцыя Гродзенскай вобласці праверыла сельскагаспадарчыя прадпрыемствы ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення пасяўной кампаніі.**

У першай палове гэтага тыдня міліцыя працавала ў нашым рэгіёне: на сельгаспрадпрыемствах Ашмянскага, Смаргонскага, Астравецкага раёнаў.

На тэрыторыі машынна-трактарнага парка гаспадаркі ў Ашмянскім раёне заўважылі паламаны плот. У алкатэстара тэрмін паверкі скончыўся ў 2019 годзе, яго паказанні не могуць выкарыстоўваць для выпуску кіроўцаў. Медагляд работнікаў праводзяць фармальна.

Былі парушэнні пры запраўцы машын. Палівазапраўчныя калонкі не адкалібраваныя.

А бензін заліваюць у бакі з дапамогай вядра на вока, бо лічыльнік няспраўны.

Механізм уключэння калонак слаба абаронены. Знайшлі і няўлічаныя сельгасагрэгаты.

У астатніх гаспадарках звярталі ўвагу на недахопы пры выпуску транспарту і аглядзе работнікаў. У адной з гаспадарак Смаргонскага раёна кантроль на алкаголь прайшлі ў два разы менш кіроўцаў, чым рэальна выехалі на лінію.

А ў Астравецкім раёне некаторых кіроўцаў праверылі не непасрэдна перад выездам, а за дзень да яго, пра што сведчылі запісы ў адпаведным журнале.

Таксама міліцыянеры звярталі ўвагу кіраўнікоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў на неабходнасць устаноўкі на службовую тэхніку навігацыі і прылад кантролю расходу паліва.

У якасці прыкладу прывялі досвед адной з гаспадарак Гродзенскага раёна, дзе пасля ўстаноўкі кантралюючых прыбораў расход паліва зменшыўся на 17 тон у месяц.

**Паводле УУС Гродна.**

## Маладзечанец знайшоў мабільнік і прынёс у міліцыю. Шукаюць уладальніка

**МАЛАДЗЕЧНА**

25 лютага ў Маладзечанскі РАУС звярнуўся 32-гадовы гараджанін. Ён паведаміў, што днём раней паблізу гаражнага кааператыва №9 па вуліцы Металістаў знайшоў мабільны тэлефон «Хуавей».

З яго слоў, прылада была разраджаная. Зарадзіўшы гаджэт, самастойна ўстанавіць уладальніка маладзечанцу не ўдалося. Ён прынёс тэлефон у міліцыю.

У Маладзечанскі РАУС заяў пра знікненне мабільнага тэлефона не паступала, паведаміла афіцыйны прадстаўнік РАУС **Юлія Крук**.

Міліцыя просіць грамадзян, якія ведаюць уладальніка мабільніка або абставіны, пры якіх згубіўся мабільнік, паведаміць па тэлефонах: **102**, **(8 0176) 77-16-56** (аператыўна-дзяжурная служба), **(8 029) 878-65-93** альбо на адрас: **Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Сакалоўцы гарэла лазня

**ВІЛЕЙКА**

15 сакавіка каля сямі раніцы гарэла лазня ў прыватным двары ў вёсцы Сакалоўка Хаценчыцкага сельсавета.

Лазня была драўляная, накрытая шыферам, у памяшканні была электрычнасць. У выніку агонь пашкодзіў столь на плошчы два квадратныя метры, закурыў сцены і маёмасць у парылцы. Людзі, жывёлы і суседнія будынкі не пацярпелі, паведамілі ў Вілейскім РАНС.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вецер сарваў шыфер на ферме

**МАЛАДЗЕЧНА**

13 сакавіка моцны вецер пашкодзіў дахі трох сельгасбудынкаў. Пацярпелі млын, мехмайстэрні і малочнатаварная ферма сельскагаспадарчай фірмы «Маркава» ААТ «Маладзечанскі райаграсэрвіс».

З трох будынкаў вецер сарваў 120 лістоў шыферу.

У адным з будынкаў было 80 кароў. Яны не пацярпелі, паведаміла старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Марына Ганчарова**.

МНС нагадвае, што рабіць, калі пачаўся моцны вецер ці ўраган

Устрымайцеся ад выхаду на вуліцу. Калі ж ураган заспеў вас на вуліцы, трымайцеся як мага далей ад лёгкіх пабудоў, будынкаў, мастоў, эстакад, ліній электраперадач і дрэў. Старайцеся хутчэй схавацца.

Не заходзьце ў пашкоджаныя будынкі, бо яны могуць абрынуцца пры новых парывах ветру. Беражыце сябе. У выпадку любой надзвычайнай сітуацыі тэлефануйце на нумары **101** ці **112**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Пешаходная вуліца ў Юрмале.

# Людзі – у масках, школы і ВНУ не працуюць

## Ураджэнка Вілейшчыны – пра тое, што змянілася ў Юрмале праз каранавірус

**По стане на 18 сакавіка ў Латвіі было 60 хворых на каранавірус. Краіна закрыла межы, увяла рэжым надзвычайнай сітуацыі, прыпыніла міжнародны пасажырскі транспарт.**

Больш падрабязна пра тое, што адбываецца ў адной з суседніх краін, нам расказала чытачка **Галіна Спроге.**

Спадарыня Галіна – родам з Вілейшчыны. Ужо шмат гадоў жанчына жыве ў Юрмале. Цяпер яна пенсіянерка.

– Панікі ў нас у горадзе няма. Вуліцы не пустыя. Праўда, некаторыя людзі ходзяць у медыцынскіх масках, – кажа суразмоўца з Юрмалы.

По словах спадарыні Галіны, урокі ў школах краіны адмянілі ад 13 сакавіка. Меркавана, каранцін закончыцца 14 красавіка.

**Школьнікаў перавялі на дыстанцыйнае навучанне. Дзякуй, што ёсць інтэрнэт, адзначае суразмоўца.**

Не працуюць таксама і ВНУ ў Латвіі. Садкі працуюць, але ва ўмовах каранціну. Ходзяць толькі тыя дашкольнікі, якія хадзілі раней. Іншых дзяцей пакуль не прымаюць.

З аэрапорта ў Юрмале адмянілі рэйсы ў некаторыя краіны, у тым ліку ў Польшчу, Італію, Турцыю.

**Таксама ўвялі забарону на мерапрыемствы, дзе збіраецца больш за 50 чалавек. Адмянілі набажэнствы.**

По словах Галіны, гэта пакуль усе захады кіраўніцтва ва ўмовах пандэміі. У Юрмале працуюць рынкі, кавярні, крамы, ходзяць гарадскі транспарт.

**Жывём амаль у звычайным рэжыме, падсумавала жанчына.**

Нагадаем, што ў сувязі з каранавірусам усе краіны-суседкі Беларусі закрылі межы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзе будуць лячыць хворых на каранавірус і назіраць за кантактнымі

Згодна з загадам Міністэрства аховы здароўя №296 ад 16 сакавіка, зацвердзілі спіс медустаноў у Мінску і рэгіёнах для своечасовай дапамогі хворым на каранавірус і назірання за кантактнымі першага і другога ўзроўняў.

Для жыхароў Маладзечна, Валожына, Мядзела і Вілейкі будуць працаваць наступныя медустановы:

• Гарадская інфекцыйная клінічная бальніца Мінска – для пацыентаў з інфекцыяй COVID19.

• Рэспубліканскі клінічны шпіталь інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і Барысаўская гарадская бальніца №2 – для шпіталізацыі кантактаў першага ўзроўню.

• Аздараўленчы комплекс, філіял Барысаўскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра «Берліна» і спартыўна-аздараўленчы комплекс «Брыганціна» БДУ, што ў Радашкавічах, – для шпіталізацыі кантактаў другога ўзроўню.

Хворых і тых, што мелі кантакт, са Смаргоншчыны, Астравеччыны і Ашмяншчыны будуць прымаць медустановы Гродзенскай вобласці:

• Гродзенская абласная клінічная інфекцыйная бальніца – для пацыентаў з інфекцыяй COVID19 і кантактных першага ўзроўню.

• Гродзенскі абласны скурна-венералагічны дыспансер – для шпіталізацыі кантактаў другога ўзроўню.

На раніцу 18 сакавіка ў Беларусі зафіксавалі 51 выпадак каранавіруса.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

## СААЗ рэкамендавала пры самалячэнні ад каранавіруса піць парацэтамол

Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) рэкамендуе не выкарыстоўваць ібупрафен і лекі, што яго замяшчаюць, для самалячэння ад новага каранавіруса, а піць парацэтамол, заявіў на брыфінгу ў аўторак прэс-сакратар СААЗ **Крысціян Ліндмаер**.

«Не было апублікавана новых сведчанняў таго, што ібупрафен павышае рызыку смяротнасці (пры COVID19). Недастаткова даследаванняў, і эксперты пакуль вывучаюць звесткі. Пакуль жа мы рэкамендуем аддаць перавагу парацэтамолу і не выкарыстоўваць ібупрафен у якасці самалячэння», – сказаў ён

Паводле яго слоў, калі ібупрафен выпісаны доктарам і неабходны па медыцынскіх паказчыках, то яго можна прымаць.

**Паводле СААЗ.**

## Пабудуюць новую школу

**МЯДЗЕЛ**

Школу на сто дзяцей пабудуюць у вёсцы Занарач.

**Новы будынак заменіць старую школу, якая патрабуе капітальных укладанняў і рамонту.**

У старым будынку няма сваёй сталовай – дзецям даводзіцца абедаць у суседняй пабудове. Цяпер завяршаецца ўзгадненне праекта, ён тыпавы.

Новую аднапавярховую школу плануюць пабудаваць за паўгода і здаць у эксплуатацыю сёлета да 1 верасня.

**Паводле tvr.by.**

## Памежнікаў абследавалі на каранавірус

**АШМЯНЫ**

Як паведамілі ва ўпраўленні аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама 12 сакавіка, у інфекцыйнае аддзяленне Ашмянскай ЦРБ шпіталізавалі чатырох супрацоўніка пункта пропуску Каменны Лог для правядзення каранцінных мерапрыемстваў.

**Супрацоўнікі дадзенага пункта пропуску знаходзіліся ў кантакце з грамадзянінам, які праехаў праз мяжу і ў якога пазней аказаўся станоўчым аналіз на каранавірус.**

Усе чацвёра супрацоўнікаў пункта пропуску Каменны Лог здаровыя, абследаваны, па выніках аналізаў каранавірус у іх не знойдзены. За імі працягваюць назіраць.

**Паводле GrodnoMediaGroup.**

## Перамаглі ў дыстанцыйнай алімпіядзе для педагогаў Міншчыны

**ВІЛЕЙКА**

Сёлета ў студзені-лютым у пяты раз на Міншчыне правялі абласную алімпіяду для педагагічных работнікаў. Сярод пераможцаў – дзве настаўніцы рускай мовы і літаратуры з Вілейшчыны, паведамляюць ва ўпраўленні адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

**Святлана Анатольеўна Згерская**, што працуе ў вілейскай гімназіі №1 «Логас», заняла другое месца ў сваёй намінацыі.

**Дзіна Фёдараўна Івашанка** з Вязынскага вучэбна-педагагічнага комплексу – трэцяе.

Сертыфікаты атрымалі настаўнікі англійскай мовы, якія выканалі не менш за 50% заданняў. Гэта педагогі з гімназіі №1 «Логас» **Людміла Іосіфаўна Кірый**, **Юлія Міхайлаўна Круцкіх**, **Таццяна Валянцінаўна Цывілька** і настаўніца вілейскай школы №5 **Алена Аляксандраўна Шлянскова**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Інспекцыя – пра паляванне на дзікіх птушак

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету паведамляе, што ад 14 сакавіка пачаўся вясновы сезон палявання на птушыную дзічыну. А ад 10 мая дазволяць ружэйнае паляванне на пералётных гусей.

Паляваць дазволяць на шэрага, белалобага, гуменніка, канадскую казарку, а таксама на самцоў качак крыжанкі, свіязі, гогаля, шыраканоскі, качкі шэрай, чырвонагаловую і чубатую чарнець, чыркоў – свістунка і траскунка.

Паляванне дазваляецца ў светлы час сутак, акрамя перыяду ад 12 да 18 гадзін. Дазволеныя спосабы палявання на гусей: ружэйны (гладкаствольнай паляўнічай зброяй і патронамі са шротам) з засады альбо з засады з выкарыстаннем маскіровачнага халата і толькі з прынаджваннем з дапамогай вабіка (манка) і падсаднага гусака (гусей) ці пудзілаў гусака.

Дазволеныя спосабы палявання на качак: ружэйны (гладкаствольнай паляўнічай зброяй і патронамі са шротам або з выкарыстаннем маскіровачнага халата і толькі з прынаджваннем з дапамогай падсадной качкі (качак) і (або) пудзілы (пудзілаў) і вабіка.

У вясновы сезон палявання на гусей ці качараў дапускаецца выкарыстанне маскіровачнага халата або касцюма, надзетага на паляўнічага.

Для вышуку і падачы здабытай дзічыны можна выкарыстоўваць паляўнічых сабак – тэр'ераў, таксаў, выжлаў, спаніэляў.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

Астравец, Смаргонь, Мядзел, Вілейка, Ашмяны, Маладзечна, Валожын

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ФВ-Пасат B-5, 1998 г.в., 1,8 газ-бензін, белы, седан. 8300 рублёў. Т. (8-029) 7005041.

• Форд-Эскорт, 1990 г.в., на хаду. Т. (8-01771) 46439.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706,(8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 4-пакаёвая кватэра ў раёне «Зеніт», а/м Mitsubishi Space Wagon, 1998 г.в. Т. (8-025) 9529391.

• Дом 53 кв. м, 6 сотак, побач лес, рака, Вілейскае вадасховішча, Стаўкі. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5768658.*

• Дом 90 кв.м з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Шчапанавічы Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці. Т. А1 (8-029) 9664572 Вайбер.

• Дом недабудаваны на ўскрайку Астраўца. Побач возера, лес. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Т. (8-033) 3513656.*

• Дом у вёсцы Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак, гаспадарчыя пабудовы. Т. МТС (8-029) 7674753, Вольга.*

• Дом у вёсцы Пекары Маладзечанскага раёна. Т. (8-044) 5505635.*

• Дом у Вілейцы з гаспабудовамі, 45 кв.м, 13 сотак зямлі. Т. (8-033) 6671169.

• Дом у Маладзечне, драўляны, 72 кв. м, вада, газ, электрычнасць, мясцовая каналізацыя, 11 сотак, 53 000 рублёў, торг магчымы. Т. (8-029) 7562992.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

## СПАЧУВАННЕ

Не стала таленавітага музыканта і дырыжора, чалавека з добрай душой і чыстым сумленнем **Івана Міхайлавіча Канановіча**. Мы глыбока смуткуем з прычыны смерці Івана Міхайлавіча і выказваем шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

**Сябры.**

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота/надпіс на кубак/майку, 9 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442, Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40 з дакументамі. Т. (8-029) 8658044.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дровы – бяроза, 2 машыны. Самавываз. Вілейскі раён, в. Нясцёркі. Т. (8-033) 6915981.*

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Універсальны фугавальны вал новы. Т. (8-029) 9430358.*

### КУПЛЮ

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу. Досвед: тынкоўка, фарбавальныя работы з гіпсакардонам, ламінат, вагонка, пластык і шмат іншага. Т. (8-029) 5526667.

## У рэгіён прыязджаў намеснік прэм'ер-міністра

АСТРАВЕЦ

**З працоўным візітам Астравеччыну наведаў намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Юры Назараў, паведамляюць у Астравецкім райвыканкаме.**

Для яго правялі экскурсію, дзе распавялі пра атамную энергетыку ў Беларусі і прынцыпы працы.

**Гутарылі пра развіццё горада. Летась тут адкрылі новую школу і дзіцячы сад, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, пабудавалі некалькі шматкватэрных дамоў.**

Сёлета ў студзені ў Астраўцы ўвялі ў эксплуатацыю першую чаргу цэнтральнай раённай клінічнай бальніцы, якую таксама наведаў Юры Назараў. Летась у Астравец прыехала 140 медыцынскіх работнікаў.

Наведаў намеснік прэм'ер-міністра і нядаўна адкрыты спартыўна-аздараўленчы комплекс «Імпульс» з басейнам, трэнажорнай залай і залай для гульнявых відаў спорту.

**Па словах супрацоўнікаў комплексу, штодзень сюды прыходзіць займацца спортам каля двухсот чалавек.**

Тут дапрацоўваюць комплекс прапанаваных паслуг і абанементы са зніжкай.

**Аддзел інфармацыі.**





Такія экалагічныя куткі атрымаліся ў групах.

# У садку правялі агляд-конкурс куткоў прыроды

СМАРГОНЬ

**У яслях-садку №13 зладзілі агляд-конкурс куткоў прыроды ў групах.**

Мы, педагогі, лічым, што свет прыроды дзіця не зможа спазнаць па малюнку. Для таго, каб дашкольнікі навучыліся разумець навакольны свет, усталёўваць сувязі паміж прыроднымі аб'ектамі, неабходна пагрузіць іх у адпаведную атмасферу.

Агляд праводзілі для таго, каб стварыць аптымальныя ўмовы для развіцця пазнавальнай актыўнасці дзяцей у працэсе эксперыментавання, каб сфарміраваць у выхаванцаў уяўленні пра жывую і нежывую прыроду, іх узаемасувязь. Была мэта і зацікавіць педагогаў да творчай актыўнасці.

Выхавальнікі ўсіх груп творча падышлі да афармлення куткоў, праявілі арганізаванасць.

**Вельмі дапамаглі з абнаўленнем куткоў і бацькі выхаванцаў.**

У кожнай узроставай групе куткі істотна абнавіліся і папоўніліся калекцыямі, календарамі, муляжамі, дыдактычным матэрыялам, інструментамі для працоўнай дзейнасці.

Хочацца верыць, што нашы дзеці, калі вырастуць, будуць любіць і берагчы ўсё жывое.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Падзяліліся досведам з экспедыцыі па замерах нулявога фону на БелАЭС

**Супрацоўніцтва з незалежнымі міжнароднымі грамадскімі арганізацыямі абмеркавалі ўдзельнікі круглага стала «Міжнароднае супрацоўніцтва пры рэалізацыі праекта будаўніцтва БелАЭС», паведамілі ў прэс-службе Міністэрства энергетыкі Рэспублікі Беларусь.**

АСТРАВЕЦ

Мерапрыемствы ладзілі ў Мінску пры арганізацыйнай падтрымцы Міністэрства энергетыкі і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

На круглым стале выступілі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, якія ўдзельнічалі ў міжнароднай экспедыцыі па замерах нулявога фону на тэрыторыі, прылеглай да пляцоўкі, дзе будуецца АЭС.

– Беларускі досвед супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі мае перспектывы для прымянення яго на атамных аб'ектах у іншых краінах, – адзначыў **Аляксей Едкін**, дырэктар ТАА «Агенцтва экалагічнай бяспекі «Альфа-Х91» Екацярынбурга.

Падчас экспедыцыі правялі палявую гама-спектраметрычную здымку больш чым у двухстах пунктах вакол перыметра пляцоўкі Беларускай АЭС і адабралі пробы паветра, вады, глебы, донных адкладаў і расліннасці для лабараторных даследаванняў. Найбольш эфектыўным выкарыстаннем атрыманых замераў «нулявога фону» можа стаць правядзенне сістэматычных назіранняў за радыеэкалагічнай сітуацыяй на Астравеччыне.

Па словах **Максіма Васяновіча**, супрацоўніка кафедры эксперыментальнай фізікі Уральскага федэральнага ўніверсітэта, вельмі важна правесці замеры менавіта на этапе падрыхтоўкі да эксплуатацыі станцыі.

– Станцыя будзе працаваць не пяць і не дзесяць гадоў, па тэхналогіі закладзена мінімум 60 гадоў эксплуатацыі. Правільна і ў далейшым праводзіць падобныя замеры для параўнання паказчыкаў, – лічыць ён. – Гэта будзе пацвярджаць бяспечную эксплуатацыю яе ў гэтым рэгіёне і дазволіць пацвердзіць, што абраная тэхналогія не ўплывае на радыеэкалагічную абстаноўку. Вымярэнні стануць індыкатарам нязменнасці прыроднага радыяцыйнага фону на працягу ўсяго тэрміну эксплуатацыі станцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

# «Будзь прыкладам свайму дзіцяці!». Маладзечанская ДАІ правяла рэйд з «Рэгіянальнай газетай»

**13 сакавіка карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» адправілася разам з інспектарам ДАІ Сяргеем Бартошам у рэйд па вуліцах Маладзечна.**



Сяргей Бартош тлумачыць жанчыне, з якім ростам можна перавозіць дзяцей на пярэднім сядзенні.

Дзяржаўтаінспекцыя праводзіць комплексныя мерапрыемствы па прафілактыцы і папярэджанні ДТЗ з удзелам непаўналетніх пад назвай «Будзь прыкладам свайму дзіцяці!».

### Задача: спыняць і тлумачыць

Сяргей Бартош абраў месцам інспектавання вуліцу Валынца каля дзіцячай паліклінікі. У ходзе рэйду ён звяртаў увагу на аўтамабілі, у якіх перавозілі дзяцей. Інспектар спыніў тры машыны, у дзвюх з якіх перавозілі дзяцей з парушэннем правілаў дарожнага руху.

Сяргей Бартош спыніў першую машыну прыкладна праз пару хвілін, як падышоў да дарогі. Кіроўца перавозіў сямігадовага сына на пярэднім сядзенні не ў спецыяльнай прыладзе, якая ўтрымлівае малога.

> – Ведаю правілы, ведаю, што парушыў. Але вельмі спяшаўся, дзеці ў мяне хварэюць.

Другую машыну маёр Бартош спыніў неўзабаве. Мужчына вёз унучку на заднім сядзенні, яна не была прышпіленая.

– Унучка хварэе на пнеўманію, вось спяшаюся, каб адвезці яе ў бальніцу.

Мужчына паспеў паскардзіцца на дарожны падатак – ён не праходзіў тэхагляд некалькі год. Бартош кажа, што такія кіроўцы сустракаюцца, але па тэхаглядзе ў яго адно меркаванне: праходзіць абавязкова трэба, як і сплачваць падатак.

– Разумееце, вось ёсць умоўныя Вася, Пеця і гэты кіроўца. Вася і Пеця плацяць за абслугоўванне дарогі, а ты не плаціш нічога. Так нельга.

Разам з праверкай кіроўцаў, якія перавозяць дзяцей, Бартош спыняе машыны з расійскімі нумарамі. Гэта робіць, каб правяраць аўтамабілі, якія, верагодна, дзесьці парушылі правілы і іх зафіксавалі на камеры.

Напрыканцы рэйда Сяргей Бартош спыніў міні-бус. На першы погляд, у ім акрамя кіроўцы, нікога не было.

> – Гэта вы не бачыце, а я за дзясятак метраў заўважаю – гэта досвед.

Высветлілася, што кіроўца перавозіла ў салоне свайго сына, які быў прышпілены. Бартош правёў размову з жанчынай і растлумачыў ёй, што можна перавозіць дзіця і на пасажырскім сядзенні каля кіроўцы – толькі пры пэўных умовах.

Акрамя размоў з кіроўцамі, інспектар тлумачыў і дзецям, як і чаму трэба выконваць правілы. Дзецям і кіроўцам Бартош таксама даваў спецыяльныя буклеты ад дарожнай міліцыі.

### Як перавозіць дзяцей?

Згодна з ПДР перавозка дзяцей у легкавым аўтамабілі, абсталяваным рамянямі бяспекі, павінна ажыццяўляцца з выкарыстаннем:

> • дзіцячых утрымальных прылад, якія адпавядаюць вазе і росту дзіцяці, – ва ўзросце да пяці гадоў;



Інспектар складае пратакол.

• дзіцячых прылад, якія адпавядаюць вазе і росту дзіцяці, іншых сродкаў (бустэраў, спецыяльных падушак для сядзення, дадатковых сядзенняў), якія дазваляюць бяспечна прышпіліць дзіця з дапамогай рамянёў бяспекі, прадугледжаных канструкцыяй транспартнага сродку, – ва ўзросце ад пяці да дванаццаці гадоў.

Дапускаецца перавозіць дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў без выкарыстання названых у выпадку, калі рост дзіцяці перавышае 150 сантыметраў, а таксама ў аўтамабілі-таксі.

Забараняецца перавозка дзяцей на пярэднім сядзенні легкавога аўтамабіля з выкарыстаннем дзіцячых утрымальных прылад, якія адпавядаюць вазе і росту дзіцяці, але спінка якіх павернутая да лабавога шкла аўтамабіля, калі пярэдняе сядзенне мае падушку бяспекі. За выключэннем выпадку, калі механізм франтальнай падушкі бяспекі адключаны.

Забараняецца перавозіць дзяцей да 12 гадоў на заднім сядзенні матацыкла ці мапеда, на каленях у кіроўцы, у пасажыра на пярэднім сядзенні легкавога аўтамабіля, у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай і ў кузаве-фургоне.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Дзікае паляванне караля Стаха»

**Напрыканцы 1970-х «Беларусьфільм» выпусціў мастацкі фільм па матывах аднайменнай аповесці беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха».**




Фота imdb.com.

Афіша фільма на французскай мове.

«Дзікае паляванне» называюць адным з першых містычных фільмаў у СССР. Прэм'ера яго адбылася ў 1979 годзе ў Мінску ў сценах Чырвонага касцёла, дзе тады размяшчаўся Дом кіно. Здымкі старадаўняга палаца праводзіліся ў Падгорацкім замку, які знаходзіцца ў Львоўскай вобласці Украіны.

Над сцэнарыем працавалі Уладзімір Караткевіч і Валеры Рубінчык. Сюжэт фільма значна адрозніваецца ад сюжэта аповесці, па якой ён быў пастаўлены.

Дзеянне карціны адбываецца ў 1900 годзе на Палессі, куды прыехаў навуковец-этнограф Андрэй Беларэцкі. Ён пасяліўся ў маёнтку Балотныя Яліны, гаспадыня якога Надзея Яноўская.

У маёнтку праходзіць баль. Беларэцкі знаёміцца з панам Дубатоўкам – апекуном Яноўскай. На балі адбываецца канфлікт паміж Алесем Варонай і Беларэцкім. Дубатоўк запрашае Андрэя ў свой маёнтак.

На наступны дзень Андрэй Беларэцкі даведваецца пра Маленькага Чалавека і Блакітную Жанчыну. Яму распавядаюць і легенду пра дзікае паляванне караля Стаха, якому здрадзіў прадстаўнік роду Яноўскіх. Надзея – апошняя з Яноўскіх. Калі яна памрэ, то Балотныя Яліны атрымаюць у спадчыну далёкая сваячка пані Кульша ці Дубатоўк. Беларэцкі не верыць ва ўсё пачутае, але яго пераконваюць у існаванні дзікага палявання.

На прагулцы са студэнтам Кіеўскага ўніверсітэта Андрэем Свеціловічам нехта страляе ў Беларэцкага, ён атрымлівае раненне. Неўзабаве памірае Свеціловіч, а затым Ігнат Берман-Гацэвіч, упраўляючы маёнтка Яноўскіх.

Андрэй наведвае маёнтак Дубатоўка. У яго зноў адбываецца канфлікт з Варонай, які перарастае ў дуэль. Беларэцкі сыходзіць ад Дубатоўка і побач з Балотнымі Ялінамі бачыць дзікае паляванне. Паляўнічыя праследуюць яго, але ён выратуецца.

Праз нейкі час Андрэй раскрывае міф пра Маленькага Чалавека і Блакітную Жанчыну: першым быў брат упраўляючага маёнтка, а другой – Надзея.

У снежні ў Балотных Ялінах святкуюць Новы год. Пачынаецца дзікае паляванне, падчас якога сяляне даведаюцца, што большая частка коннікаў – гэта пудзіла ў рыцарскім абмундзіраванні. Варона збег да арганізатара палявання – Дубатоўка. Варона спрабуе схавацца ў яго доме, але той забівае яго. Сяляне ўзялі штурмам маёнтак Дубатоўка, а ён загінуў.

Надыходзіць першы дзень 20 стагоддзя. Беларэцкага арыштоўваюць і адпраўляюць у Пецярбург. Яноўская з'язджае з ім.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 23 МАРТА**

**7.00, 15.50, 18.20, 21.00, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.15, 16.05** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.35, 16.00, 18.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«47 РОНИНОВ».**
**9.35** Х/ф **«ИСПАНСКАЯ ПРИНЦЕССА».**
**10.35** Д/ф «НАША ПЛАНЕТА».
**11.25** Х/ф **«УБИЙСТВО В ВОСТОЧНОМ ЭКСПРЕССЕ».**
**13.20** «Доктор отвечает».
**13.25, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**15.05** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**16.30** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ ТАНГО».**
**20.00** Т/с **«ТЬМА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Герои комиксов на экране». «Люди Икс».
**23.00** Х/ф **«ГЛУБОКОЕ СИНЕЕ МОРЕ».**

**ВТОРНИК, 24 МАРТА**

**7.00, 15.40, 18.15, 21.05, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 15.45** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.30, 16.35, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**9.35, 20.00** Т/с **«ТЬМА».**
**10.30** Д/ф «СВОБОДНАЯ ЭНЕРГИЯ. НИКОЛАЙ ТЕСЛА».
**11.25** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**
**13.20** «Сад и огород».
**13.25, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.55** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**16.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.40** Х/ф **«ЧУДО НА ГУДЗОНЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДВА БРАТА».**
**23.00** Х/ф **«В ТЕНИ ЛУНЫ».**

**СРЕДА, 25 МАРТА**

**7.00, 15.40, 18.25, 21.00, 0.40** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 15.50** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.35, 15.45, 18.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** «Сад и огород».
**7.45** Х/ф **«СЕЛФИ».**
**9.35, 20.00** Т/с **«ТЬМА».**
**10.25** «Законы привлекательности».
**11.20** Х/ф **«ДВА БРАТА».**
**13.05** «Доктор отвечает».
**13.10, 18.30** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.45** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**16.15** Х/ф **«КЛУБ ЛЮБИТЕЛЕЙ КНИГИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«НОЧНЫЕ ИГРЫ».**
**22.50** Х/ф **«МАЛЕНЬКИЙ КРОЛИК».**

**ЧЕТВЕРГ, 26 МАРТА**

**7.00, 15.40, 19.55, 21.00, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.35, 15.45, 17.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«ХАНТЕР КИЛЛЕР».**
**9.35, 20.00** Т/с **«ТЬМА».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**11.00** Х/ф **«НОЧНЫЕ ИГРЫ».**
**12.45** «Сад и огород».
**12.50, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.25** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ТРЕВОЖНЫЙ ВЫЗОВ».**
**17.45** «Готовь как шеф».
**18.10** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«СКАНДАЛ».**
**22.50** Х/ф **«ТЕМНЫЕ ВОДЫ».**

**ПЯТНИЦА, 27 МАРТА**

**7.00, 15.45, 19.50, 21.00, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 15.55** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.30, 15.50, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«МАЛЕНЬКИЙ КРОЛИК».**
**9.30, 20.00** Т/с **«ТЬМА».**
**10.25** Д/ф «ОТРАВЛЕННЫЙ ГОРОД».
**10.50** Х/ф **«ТЕМНЫЕ ВОДЫ».**
**13.00, 19.55** «Доктор отвечает».
**13.05, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.35** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.25** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЕ РЫЦАРИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КАПИТАН АМЕРИКА».**
**23.40** Х/ф **«УБИЙЦА».**

**СУББОТА, 28 МАРТА**

**7.00** «Погода» + «Эрана» + «Аэровидео».
**7.10** Мультфильмы «Союз зверей».
**8.40, 15.40** «Приколы 13-й школы».
**8.45** Х/ф **«ЩЕЛКУНЧИК И ЧЕТЫРЕ КОРОЛЕВСТВА».**
**10.25** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ЭТАЛОНЫ КРАСОТЫ».**
**14.10, 18.50, 21.15, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**14.15** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Королевские корги».
**15.45** Х/ф **«МУМИЯ ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**18.00** «Законы привлекательности».
**18.55** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ПРОСТАЯ ИСТОРИЯ».**
**23.20** Х/ф **«РОБОТ ПО ИМЕНИ ЧАППИ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 29 МАРТА**

**7.00, 16.55, 18.45, 21.00, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.35, 16.50, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**10.15** «Готовь как шеф».
**10.40** «Законы привлекательности».
**11.35** Х/ф **«ЭТАЛОНЫ КРАСОТЫ».**
**15.00** «Смотрим всей семьей». «Алиса в стране чудес».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.55** Т/с **«КАСЛ».**
**18.40** «Доктор отвечает».
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ИСЧЕЗНУВШАЯ».**
**23.40** Х/ф **«НЕВОЗМОЖНОЕ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 23 МАРТА**

**6.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ».**
**9.45** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**11.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**13.15** Рядом со звездой.
**13.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**14.00** Х/ф **«РАССЕЯННЫЙ».**
**15.30** Новости БЖД.
**15.45** Х/ф **«СПРОСИТЕ СИНДИ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.30** Майстэрства і фантазія: папяровыя дзівосы.
**20.20** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**

**ВТОРНИК, 24 МАРТА**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 17.15** Мнения и факты.
**8.30** Мая Радзіма.
**8.50** Фрагменты истории.
**9.00** По правилам таможни.
**10.00** Реликвия: сохраненные ценности.
**12.00** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ ДА».**
**14.00** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ДИК И ДЖЕЙН».**
**15.40** Х/ф **«ДЮПЛЕКС».**
**18.50** Афиша.
**19.30** Будьте здоровы. Мама Про.
**20.20** Х/ф **«МОНАХИНИ В БЕГАХ».**
**22.30** Мажорный лад.

**СРЕДА, 25 МАРТА**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00** Мая радзіма.
**7.15, 19.20** Гость в студии.
**8.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**10.30** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**13.00** Рядом со звездами.
**15.40** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Будьте здоровы.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 26 МАРТА**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 18.00** Будьте здоровы.
**8.30** Майстэрства і фантазія: папяровыя дзівосы.
**10.50** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ?».**
**12.10** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**14.10** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ СЛИШКОМ МАЛО ЗНАЛ».**
**18.50** Афиша.
**19.30** Живые голоса истории.
**20.20** «Национальная безопасность».
**22.30** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 27 МАРТА**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00** Мнения и факты.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.00** Мая радзіма.
**8.30, 17.25** Живые голоса истории.
**9.00** Протокол.
**12.00** Х/ф **«ЧЕРНЫЙ РЫЦАРЬ».**
**13.30** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**15.35** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ФУТБОЛ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Майстэрства і фантазія: лозапляценне.
**20.30** Реликвия: сохраненные ценности.
**21.00** Гость в студии.
**22.30** Мажорный лад.

**СУББОТА, 28 МАРТА**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.30** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И НАСЛЕДНИЦА ПРЕСТОЛА».**
**10.05** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**12.10** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ РЕМОНТ».**
**14.30** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**15.50, 21.10** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«ПЫШКА».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.30, 21.25** Рядом со звездой.
**20.30** Живые голоса истории.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 29 МАРТА**

**6.30** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**8.20** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**10.25** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ».**
**13.20** Х/ф **«РАССЕЯННЫЙ».**
**14.55** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И НАСЛЕДНИЦА ПРЕСТОЛА».**
**16.20** Х/ф **«ЧЕРНЫЙ РЫЦАРЬ».**
**17.50** Х/ф **«СПРОСИТЕ СИНДИ».**
**19.35** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ».**
**21.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ СЛИШКОМ МАЛО ЗНАЛ».**

## Беларусь 1

**6.30, 16.30** Х/ф **«КАТЬКИНО ПОЛЕ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ТРИ В ОДНОМ 2».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.05** Eurovision. Итоги недели.

**19.50** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ВНЕ КОНКУРСА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.25, 19.35** Телебарометр.

**9.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу 12+).

**10.20** «Шерлоки». Детективное шоу.

**11.10** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.55** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**12.50** Экшн «Первый мститель».

**15.20** «Ужин не нужен».

**16.05** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.50** Х/ф **«СОННАЯ ЛОЩИНА».**

**20.05** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Суперpredжена». Реалити-шоу.

**22.00** Х/ф **«ОГРАДЫ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.50, 20.15** Навіны культуры.

**8.15, 15.10, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Артыстка». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Цатні.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Не пакідай». Мастацкі фільм.

**14.15** «Апошні дзень». Вячаслаў Нявінны.

**15.15** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**15.55** «Маё каханне». Мастацкі фільм [СТ].

**17.15** «Люблю і памятаю». Аўтарская праграма Уладзіміра Арлова. Кінарэжысёр, народны артыст СССР Уладзімір Корш-Саблін.

**17.55** «Карона Расійскай імперыі, ці Зноў няўлоўныя». Мастацкі фільм [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Зямля, да запатрабавання». Мастацкі фільм.

**23.40** «Сто дзён з Купалаўскім».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«АХ, ВОДЕВИЛЬ, ВОДЕВИЛЬ...».**

**11.05** «Видели видео?».

**13.30** Х/ф **«ВЕРНЫЕ ДРУЗЬЯ».**

**15.25** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь». Продолжение.

**18.25** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.30** Премьера. «Dance Революция».

**0.10** «Что? Где? Когда?». Весенняя серия игр.

## СТВ

**6.40, 1.50** «Живая тема».

**8.15, 11.00, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.25, 13.40, 16.40** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА 2».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.10** «Неделя спорта».

**22.40** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.15** «Беларусь сегодня».

**6.45, 7.45** Мультфильмы.

**7.05** «Играй, дутар!».

**7.40** «Культ/туризм».

**8.15** «Еще дешевле».

**8.45** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00** Новости.

**10.15, 16.15, 19.30** Т/с **«ТАЛЬЯНКА».**

**16.00** Погода в Мире.

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**20.20, 1.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «Истории ремонта».

**7.20** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.50** «Дачный ответ».

**12.50** «НашПотребНадзор».

**13.45** Т/с **«ЛЕКТОР».**

**15.25** «ЧП. Расследование».

**16.20** «Следствие вели...».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.15** «Звезды сошлись».

**21.40** Ты не поверишь!

**22.45** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.15** Х/ф **«АНТИСНАЙПЕР. ВЫСТРЕЛ ИЗ ПРОШЛОГО».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ВИРАЖИ СУДЬБЫ».**

**10.20** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**11.15** «Устами младенца».

**12.05** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский потребительский проект «Тест».

**13.10** ПРЕМЬЕРА. «Осторожно: мошенники». Расследование Леонида Закошанского.

**14.15** Х/ф **«ПОДРУГИ».**

**16.05** Emin «Good love». Сольный концерт.

**17.50, 21.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПО НАЙМУ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**22.50** ПРЕМЬЕРА. РОССИЯ. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 15.30** Ешь, молись, люби. **9.00** Не/смотря ни на что. **11.10** Она. **18.05** Мамма MIA! **20.10** Турист. **22.00** Солт. **23.50** Ужин. **2.00** Возмездие. **4.10** Шальные деньги.

### TV1000 ACTION

**7.20** Азартные игры. **9.15** Пипец. **11.20** КИН. **13.05** Я, Франкенштейн. **14.40** Последний охотник на ведьм. **16.25** Ван Хельсинг. **18.40** Воин. **21.10** Легенда. **23.30** Французский транзит. **2.00** Нечто. **3.35** Глубоководный горизонт. **5.10** Синяя бездна.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Проводник. **8.50** Зависть богов. **11.25** Иван Царевич и Серый Волк. **13.00** Иван Царевич и Серый Волк 2. **14.20** Иван Царевич и Серый Волк 3. **15.45** Каникулы строгого режима. **17.50** ПираМММида. **19.55** Джунгли. **21.20, 5.45** Война полов. **23.00** Женщины против мужчин. **0.30** Джентльмены, удачи! **2.20** Курьер из «Рая». **3.45** Чёрная молния.

### ТВ3

**6.00, 8.45, 9.30** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **9.00** «Новый день». **10.45** Х/ф **«ДУМ: АННИГИЛЯЦИЯ». 12.30** Х/ф **«ДУМ». 14.30** Х/ф **«СОЛДАТ». 16.30** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 19.00** Х/ф **«Я, РОБОТ». 21.15** Х/ф **«СТРАХОВЩИК «. 23.30** «Последний герой. Зрители против звёзд». **0.45** Х/ф **«ЛЕДИ-ЯСТРЕБ». 3.00** Х/ф **«АТОМИКА». 4.15, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00, 20.00, 21.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЛАБИРИНТ ИЛЛЮЗИЙ». 4.00** Т/с **«ДВОЕ ИЗ ЛАРЦА – 2. В ДЕБРЯХ МЕЛЬПОМЕНЫ». 5.00** Т/с **«ЗОЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** «Корсиканец». **2.45** «Рассеянный». **4.20** «Зачетный препод». **6.40** «Зачетный препод 3». **9.00** Мультфильмы «Урфин Джюс и его деревянные солдаты». **10.45** Мультфильмы «Три богатыря и Шамаханская царица». **12.15** Мультфильмы «Три богатыря на дальних берегах». **13.35** Мультфильмы «Три богатыря: Ход конем». **15.00** Мультфильмы «Три богатыря и морской царь». **16.35** Мультфильмы «Три богатыря и принцесса Египта». **17.55** Мультфильмы «Три богатыря и наследница престола». **19.30** «Завтрак у папы». **21.15** «Страна чудес». **22.50** «Повторный брак».

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 1.35, 2.40, 4.00, 5.00, 6.05, 7.05** «Шулер». **8.15, 9.20, 10.25, 11.25, 12.30, 13.35, 14.40** «Оттепель». **16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.10, 23.10** «Жизнь и приключения Мишки Япончика».

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **9.05, 10.55, 12.25, 12.55, 15.55, 17.35, 19.30, 20.55, 23.05, 23.55** Погодка. **9.10** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **11.00, 3.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.30** Шоу «СЕРДЦА ЗА ЛЮБОВЬ». **12.30** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 13.00** Фильм-катастрофа «2012». **16.00** Х/ф **«ПОБЕГ С ПЛАНЕТЫ ЗЕМЛЯ». 17.40** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **19.35, 1.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 23.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.00** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.30** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **4.20** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЕЖЬ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Теннис. WTA. **10.15** Гандбол. Чемпионат Беларуси. СКА-Минск – БГК им.Мешкова (Брест). **11.40** Биатлон. Кубок мира. **13.15** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **13.50** Футбол. Суперкубок Беларуси. Женщины. ФК Минск – Зорка-БДУ (Мінск). **15.50** Хоккей. КХЛ. **17.50** Тренировочный день. **18.20** Спортцентр. **18.30** Игры «на вырост». **19.05** Пит-стоп. **19.35, 22.25** Фигурное катание. Чемпионат Европы. **21.40** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Мехико. **2.30, 5.00, 10.30, 19.00** Плавание. Nordic Swim Tour. Берген. **3.30** Биатлон. Кубок мира. Осло. Мужчины. Масс-старт. **4.05, 9.30, 12.30** Велоспорт. «Вуэльта Каталонии». Шестой этап. **6.00** Автогонки. World Endurance. «1000 миль Себринга». Обзор. **7.00** Ралли. Азорские острова. Обзор. **7.30** Велоспорт. Бельгия. **8.30** Велоспорт. Брюгге – Де Панне. **11.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Херес. Первая гонка. **12.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Херес. Суперпоул. **13.30, 20.35, 23.45** Велоспорт. «Вуэльта Каталонии». Седьмой этап. **15.30, 21.35** Велоспорт. Гент – Вевельгем. Мужчины. **18.10, 22.50** Велоспорт. Гент – Вевельгем. Женщины.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.15, 13.50, 0.40, 1.10** Теория полного привода. **6.30, 8.05, 9.35, 18.45** Стальные парни. **7.50, 10.25, 13.05, 16.20, 18.25, 23.50, 1.40, 3.55** Итоговые новости. **8.55, 17.55** Тест на «Драйве». **9.25, 4.30** Обновление. **10.45, 20.20, 22.45, 4.40** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.15, 20.50, 5.05** Школа внедорожного вождения. **11.30, 12.15, 16.35** Все включено. Эксклюзив. **11.50, 12.40, 13.20** За рулем каждый день. **14.20, 3.30, 4.10** Гаражная команда. **14.50, 21.10, 23.20, 5.20** 9 злобных водителей. **15.25, 21.45, 1.55** Вечер с Пикуленко. **16.05, 22.30, 2.50** Аварийная ситуация. **16.50** Возвращение легенды. **17.25, 0.10** Советы для каждого. **19.30, 19.55** Поехали. **2.35** Проверка на дороге. **3.05** Сити-тестер. Эксклюзив. **5.50** Наезд!

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.15, 8.10** Речные чудовища. **9.00** Приключения на рыбалке. **9.50** Чудовищный карп. **10.35** Строительство гигантов. **11.25** Лондонский супертуннель. **12.30, 13.05, 13.55, 4.50** Выживание в лесу. **14.45, 15.10** Нефритовая лихорадка. **15.35** Австралийские охотники на лобстеров. **16.25, 17.10, 18.00, 18.45, 19.35, 20.20, 21.05, 21.55, 22.40, 23.25** Австралийские золотоискатели. **0.15, 1.00** Деревенский дом. **1.45, 2.30** Охотники на морских ежей. **3.15, 4.05** Адские грузовики.

### HISTORY

**6.15, 7.00, 4.40, 5.25** Музейные тайны. **7.55, 9.05** Львиная страна: ночь и день. **10.10** Скрытые следы: Ватерлоо. **11.20** Высадка на Луне: величайшая фальшивка в истории. **12.25, 13.25, 14.30, 15.30, 16.30** Разгадка тайны пирамид. **17.35, 18.40** Поля сражений. **19.50** Загадка исчезновения неандертальцев. **21.00** Первые люди. **22.05, 23.05** Тайны британских замков. **0.00** Военные заводы. **1.00, 1.35** Тайны Парижа. **2.05, 3.05, 3.55** Запретная история.

### NATURE

**6.05, 0.25, 0.50, 1.15** Природа в кадре. **6.30** Мир природы – лемур-блюз. **7.25** Мир природы: повелитель летучих мышей из Мексики. **8.20, 9.20** Дельфины – шпион в стае. **10.15** Жизнь тупиков. **11.10, 12.05** 24 часа на Земле. **13.00** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **13.50** Выживание в дикой природе. **15.00, 15.55, 16.50, 17.50** Природа Америки: времена года. **18.45** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **19.40** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **20.35** Невероятные животные. **21.30** Суровая Австралия. **22.20** Речные чудовища. **23.15, 1.40** Анатомия крупнейших животных. **2.25** Ветеринар из Йоркшира. **3.10, 3.35, 4.00, 4.20, 4.45, 5.10, 5.35** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.35** Научные глупости. **6.25, 5.10** Код опасности. **6.50, 7.10** История десятилетий. **7.35, 8.20, 9.05, 9.50, 10.40, 11.25** Игры разума. **12.10** Затерянные города с Альбертом Лином. **12.55** Инстинкт выживания. **13.40** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **14.30, 15.10, 15.55, 16.40, 17.30, 18.15** Апокалипсис: война миров. **19.00, 22.05, 0.25, 4.20** Космос: возможные миры. **19.45, 2.40, 3.30** Расследования авиакатастроф. **22.55, 23.40** Космос: Пространство и время. **1.10, 1.55** Авто-SOS 7.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 14.00, 17.55, 22.05, 2.05** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 22.35, 2.40** Экстремальный фидер. **6.55, 11.00, 15.00, 23.05, 3.05** Россия заповедная. **7.25, 15.30** Вкусные рецепты охотника. **8.00, 12.00, 16.00, 20.00, 0.05, 4.05** Ледовые тропы рыбалки. **8.30, 12.30, 16.25, 20.30, 0.35, 4.35** Профессиональная рыболовная лига. **8.40, 12.45, 16.40, 20.45** Нож-помощник. **9.00** На охотничьей тропе. **9.30, 13.30, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **10.30, 14.30, 18.30** Донка против фидера. **11.30, 19.30** Вкусные рецепты рыболова. **13.00, 1.05** Охота с луком. **17.00** Охота и рыбалка в. **19.00** Охота по-фински. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.35, 3.30** Камский спиннинг. **5.00** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.05, 18.00, 21.50, 2.05** Большие идеи для маленького сада. **7.00, 11.00** Беспокойное хозяйство. **7.35, 15.40, 19.35, 23.30, 3.30** Безопасность. **8.05, 12.15, 20.05, 0.00, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.10, 20.20, 0.20, 4.35** Кашеварим. **8.35, 12.50, 16.25, 20.35, 0.35, 4.50** Ваш агроном. **8.50, 13.05, 16.40, 20.50, 0.50, 5.05** Декоративный огород. **9.25, 17.10** Огород круглый год. **9.40** Не просто суп! **11.30, 15.25** Постное меню. **11.45, 15.10** Огород круглый год. **12.00** Флористика. **13.35, 21.20, 1.20, 5.30** 10 самых больших ошибок. **17.30** Обнови свой сад. **19.05, 3.05** Ботаника с Павлом Стерховым. **22.55** Тихая моя родина. **1.50** Наш румяный каравай. **4.00** Травовед.



Фота lookmytrips.com.

Брэсцкі акадэмічны тэатр, дзе пачынаў творчы шлях акцёр Юры Газіеў.

# Як ураджэнец Краснага іграў у кіно разам з Уладзімірам Высоцкім

МАЛАДЗЕЧНА

**На пачатку гэтага года я даведаўся, што ў майго добрага знаёмага Леаніда Жыткевіча пабываў госць з Львова Юры Газіеў.**

Ён даўні сябар Леаніда і аднакласнік яго жонкі Глафіры. Чаму госць з Львова быў цікавы мне?

**Па-першае, Юры – аднакласнік майго брата Эдуарда. Па-другое, у 1966-1967 гадах, пасля заканчэння школы, Юры выкладаў у мяне фізкультуру.**

А яшчэ ён адзін з нешматлікіх ураджэнцаў нашай мясцовасці, які абраў творчую прафесію – працаваў акцёрам у тэатрах Беларусі і Украіны.

### Юры Газіеў – акцёр, які нарадзіўся ў Красным

Падчас свайго гасцявання ў Навасёлках Юры падарыў Леаніду кнігу «Беларусы Львоўшчыны-2019», якая з'яўляецца дадаткам да газеты «Весткі з Беларусі». А Леанід Станіслававіч даў мне гэту кнігу пагартаць.

**З яе я больш даведаўся пра ўраджэнца нашага рэгіёна, а сёння жыхара Львова – Юрыя Газіева.**

Юры нарадзіўся на Маладзечаншчыне, у Красным, у 1948 годзе. Але хутка сям'я пераехала ў недалёкую вёску Дубравы. Тут бацька працаваў настаўнікам, а Юра скончыў Дубраўскую школу.

У 1967 годзе ён стаў студэнтам акцёрскага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

**Пасля заканчэння ВНУ выпускніка накіравалі ў Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы.**

Тут ён сыграў ролю Кукушкіна ў спектаклі «Брэсцкая крэпасць», Малыша – ў «Зацюканым апостале», Кіраўца – у п'есе «Характары» па матывах твораў Васіля Шукшына, і Трактарыста – у п'есе «А на раніцу яны прачнуліся».

### Трапіў у Львоў і застаўся

У 1974 годзе акцёра з Маладзечаншчыны запрасілі ў Львоўскі драматычны тэатр Савецкай Арміі на галоўную ролю ў п'есе «Зацюканы апостал». Там Юры і застаўся працаваць.

**Іграў у спектаклях «Маёр як маёр», «Беспасажніца», «У парадку выключэння» і іншых.**

Здымаўся Юры Газіеў і ў кіно, у фільме «Ад Буга да Віслы», музычнай казцы «Янка-пастух і іншыя прыгоды ў замку». Іграў разам са знакамітымі акцёрамі **Георгіем Віцыным**, **Яўгенам Лебедзевым**, **Алегам Янкоўскім**, **Уладзімірам Высоцкім**.

У 1980-х у складзе ансамбля песні і танца Юры бываў з выступленнямі ў Афганістане. Ад 2015 года – саліст і сукіраўнік музычнага ансамбля «Лявоны».

### Аб'яднаў беларусаў Львоўшчыны

Наш зямляк стаяў ля вытокаў стварэння суполкі беларусаў на Львоўшчыне.

**Па звестках апошняга ўкраінскага перапісу, на Львоўшчыне жыве каля пяці тысяч беларусаў.**

Мэта стварэння суполкі – захаваць сваю нацыянальную ідэнтычнасць, прытрымлівацца ў побыце беларускіх звычаяў і традыцый, не забываць родную мову.

**На Львоўшчыне многія беларусы апынуліся па самых розных абставінах. Але тое, што людзі стараюцца не забываць, падтрымліваць сувязі з радзімай, заслугоўвае павагі.**

Юра Газіеў амаль штогод прыязджае на родную Маладзечаншчыну.

**У прыгарадзе Мінска – Сенніцы – жыве яго сястра Галіна, былы работнік аддзела культуры Маладзечна. А ў Красным пахаваныя бацькі.**

У Мінску і Дубраве Юры падтрымлівае сувязі з аднакласнікамі і сябрамі дзяцінства.

Лічым, што трэба, каб пра нашага слаўтага земляка ведалі не адзінкі, а больш людзей.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1.**

● КАЛЯНДАР

**20 сакавіка**

**1896.** У Смаргоні нарадзіўся **Мойшэ (Майсей) Кульбак**, яўрэйскі пісьменнік, драматург, перакладчык. Пісаў на ідышы. Вучыўся ў Валожынскім ешыбоце. Працаваў настаўнікам у гімназіях Смаргоні, Мінска, Вільні. У 1920-1923 жыў і працаваў у Берліне. У СССР – з 1928. Рэпрэсаваны. Загінуў у турме НКВД у 1937.

21 САКАВІКА

**1840.** У фальварку Свіраны (цяпер на тэрыторыі Літвы), нарадзіўся **Францішак Багушэвіч**, беларускі грамадскі дзеяч, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Карыстаўся псеўданімамі Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава. Памёр у Кушлянах у 1900 годзе. Пахаваны ў Жупранах.



22 САКАВІКА

**1865.** У Валожыне нарадзіўся **Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі (Стары Улас)**, беларускі паэт. Памёр у 1930 г.

23 САКАВІКА

**1927.** Польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

24 САКАВІКА

**1794.** У Польшчы і ВКЛ пачалося антырасійскае паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.

25 САКАВІКА

**1918.** Беларуская Народная Рэспубліка абвясціла незалежнасць. Трэцяя Устаўная грамата. Дзень Волі.

**1935.** У в. Дварэц ля Ільі нарадзіўся **Уладзімір Папковіч**, беларускі паэт і перакладчык.



26 САКАВІКА

**1960.** У в. Пугачы Валожынскага раёна нарадзіўся **Віктар Шніп**, беларускі паэт, празаік, перакладчык.

**1995.** Пачало дзейнічаць шэнгенскае пагадненне.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**



Ілюстрацыя з сайта Маладзечанскага райвыканкама

Маркуюць, так будзе выглядаць будучы гандлёвы цэнтр.

## На Касманаўтаў збіраюцца пабудаваць гандлёвы цэнтр

МАЛАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі раённы выканаўчы камітэт запрашае грамадзян і юрыдычных асоб да грамадскага абмеркавання архітэктурна-планіровачнай канцэпцыі праекта «Рэканструкцыя капітальных пабудоў з інвентарнымі нумарамі 630/ С-76779 (аўтадром), 630 / С-50027 (будынак гаражоў), размешчаных па адрасе: Маладзечна, вуліца Касманаўтаў, 8-б, у гандлёвы цэнтр».

Будаўніцтва гандлёвага цэнтра плануецца на зямельным участку плошчай 1,1881 гектара.

Гандлёвы цэнтр будзе аднапавярховы з пад'ездамі для аўтамабіляў, газонамі і разгрузачнай пляцоўкай на тэрыторыі. Плануюць размясціць 86 паркавачных месцаў, у тым ліку чатыры машына-месцы для людзей з інваліднасцю.

Грамадскае абмеркаванне праекта праводзяць ад 21 сакавіка да 14 красавіка. Правядзенне экспазіцыі праекта зладзяць ад 21 сакавіка да 4 красавіка ў будынку Цэнтралізаванай клубнай сістэмы па адрасе: **вуліца Лібава-Роменская, 71, па працоўных днях з 8:00 да 20:00.**

Прэзентуюць праект 24 сакавіка ў 18:00 у будынку Цэнтралізаванай клубнай сістэмы.

Азнаёміцца з матэрыяламі праекта можна ад 21 сакавіка да 14 красавіка на інтэрнэт-сайце Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта: www.molodechno.minsk-region.by, у будынку Цэнтралізаванай клубнай сістэмы Маладзечанскага раёна.

Арганізатар грамадскага абмеркавання – Маладзечанскі раённы выканаўчы камітэт.

**Паводле Маладзечанскага райвыканкама.**

## Польшча ўвяла бясплатныя візы для маладых грамадзян Беларусі

Шэнгенскую візу ў польскіх консульствах дзецям і моладзі можна будзе атрымаць бясплатна.

– Ад 29 лютага дзеці ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў і маладыя людзі ва ўзросце да 25 гадоў, якія ўдзельнічаюць у семінарах, канферэнцыях, спартыўных і культурных мерапрыемствах, вызваляюцца ад платы за прыём і апрацоўку заяўкі на атрыманне шэнгенскай візы ў польскіх консульствах у Беларусі, – праінфармавалі TUT.BY у пасольстве Польшчы.

Адпаведнае распараджэнне падпісаў міністр замежных спраў Польшчы напярэдадні ўступлення ў сілу палажэнняў пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму. Нулявая стаўка візавага збору будзе дзейнічаць да 31 снежня 2020 года.

Нагадаем, 8 студзеня Беларусь і Еўрасаюз падпісалі пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму і пагадненне аб рэадмісіі. Візавае пагадненне робіць атрыманне «шэнгену» прасцей і паніжае яго цану да 35 еўра. Паніжаная цана «шэнгену» для Беларусі пачне дзейнічаць, як маркуецца, у чэрвені. Аднак ад 2 лютага ў Еўрасаюзе ўступіў у сілу новы Візавы кодэкс, за візу беларусы плаціла 80 еўра.

**Паводле tut.by.**

## Аўтапарк у парадку эксперыменту пусціў некалькі аўтобусаў праз Лубянку

СМАРГОНЬ

Філіял «Аўтамабільны парк №17 Смаргоні» ад 10 сакавіка ў парадку эксперыменту на адзін месяц арганізуе заезд у вёску Лубянка прыгарадных маршрутаў.

– Смаргонь – Валэйкавічы: адпраўленне ад аўтавакзала Смаргоні ў 14:00 (аўторак, чацвер);

– Валэйкавічы – Смаргонь: адпраўленне ад Валэйкавічаў у 6:30 (панядзелак, аўторак, серада, чацвер, пятніца);

– Смаргонь – Кушляны: адпраўленне ад аўтавакзала Смаргоні ў 14:00 (панядзелак, серада, пятніца).

**Паводле shliah.by.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Летась увосень у межах тыдняў Беларусі ў Германіі ладзілі кулінарны майстар-клас. А сёлета мерапрыемстваў не будзе зусім.**

# Ні экалагічнага майстар-класа, ні нямецкага Вялікадня

## Каранавірус пазбавіў маладзечанцаў тыдняў Германіі ў Беларусі

**Традыцыйныя тыдні Германіі ў Беларусі пачаліся 10 сакавіка. Ад 23 сакавіка мерапрыемствы планаваліся ў Маладзечне. Аднак з-за пандэміі каранавіруса ўсе актыўнасці тыдняў у Маладзечне, як і па ўсёй Беларусі, адмянілі.**

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 18 сакавіка на каранцін пайшоў Мінскі інстытут Гётэ – адзін з асноўных арганізатараў тыдняў у Беларусі. Пра гэта карэспандэнту паведамілі ў зале замежнай літаратуры Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Багдановіча.

А цяпер коратка пра тое, якіх мерапрыемстваў пазбавіў каранавірус маладзечанскіх аматараў Германіі, нямецкай мовы і культуры. 23 сакавіка ў аддзеле замежнай літаратуры Цэнтральнай раённай бібліятэкі планавалі імпрэзу Beethoven Pastoral Project, прысвечаную адкрыццю тыдняў Германіі ў Маладзечне і 250-годдзю нямецкага кампазітара Людвіга ван Бетховена (1770 – 1827).

Быў запланаваны таксама экалагічны майстар-клас «Раздзел смецця» для падлеткаў і Вялікдзень па-нямецку для старшакласнікаў маладзечанскіх школ. Меркавалася, што на свяце будзе велікоднае дрэва, пірог, зайцы, кураняты, а таксама цікавыя велікодныя гульні.

**Гульнявую тэму планавалі працягнуць падчас гульнятэкі для ўсіх ахвотных – Spielend Deutschland entdecken – «Адкрыйце Германію». Рыхтавалі пляцоўкі з настольнымі гульнямі на нямецкай мове на краіназнаўчыя, эканамічныя і навучальныя тэмы.**

Для настаўнікаў і выкладчыкаў нямецкай мовы быў запланаваны семінар з экспертам **Анцье Зомерфельд** – лектарам германскай службы акадэмічных абменаў, старшым выкладчыкам Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

**Свае інтэлектуальныя здольнасці ўдзельнікі маглі б паказаць на спаборніцтвах пра падарожжы Travel Slam і паб-квізе «Мазгабойня».**

А завяршылі б тыдні традыцыйныя кінапрагляды. Пасольства Германіі ў Мінску сумесна з Інстытутам імя Гётэ і Цэнтральнай раённай бібліятэкай імя Максіма Багдановіча збіраліся прэзентаваць на працягу двух вечароў нямецкія мастацкія фільмы на нямецкай мове з рускімі субтытрамі.

**Падчас закрыцця тыдняў, 22 красавіка, планавалі выставу дзіцячых малюнкаў.**

Нагадаем, што тыдні Германіі ў Беларусі сёлета меліся адбыцца ў 17 раз. Не першы год мерапрыемствы ладзілі ў Маладзечне.

**Сёлета першы раз тыдні запланавалі не на восень, як звычайна, а на вясну. І вось з-за неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкі мусілі ўсё адмяніць.**

Аднак, спадзяёмся, каранавірус не вечны, і Маладзечна яшчэ не раз зможа парадаваць карыснымі нямецкімі імпрэзамі аматараў Германіі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як чужыя людзі становяцца роднымі

**Успаміны пра тое, як жанчына дапамагала сям'і і стала яе часткай.**


Фота забяспечанае аўтарам.

Здымак дома, у якім жыла сям'я.

Я нарадзілася ў 1935 годзе. Ад 1975 года жыву на Смаргоншчыне. У канцы 1950-х і да пачатку 1970-х жыла ў вёсцы Еўлашы Лядскага сельсавета Шчучынскага раёна. Так супала, што на маім жыццёвым шляху трапляліся добрыя і шчырыя людзі, пра якіх можна сказаць шмат цёплых слоў.

> **Хачу падзяліцца ўспамінамі пра адну незвычайную жанчыну, якая трапілася мне ў складаны час сямейнага жыцця.**

Мы жылі з ёй бок у бок амаль 15 год. У канцы 50-х нас з мужам накіравалі ў Еўлашы. Я выкладала мову і літаратуру, а муж – біялогію. Якраз там увайшла ў строй новая школа. А перад гэтым школьным памяшканнем была звычайная хата на два канцы. У адным – школа, а ў другім – прыватны дом.

Школьная частка дома пайшла пад кватэры. Там размясціліся тры сям'і – дырэктара і дзве сям'і настаўнікаў. Нам прапанавалі кватэру ў гэтым доме. На працы ўсё ішло добра, але як уладкоўваць дзетак? У нас былі дачушка і сынок яшчэ дашкольнікі. Нам абаім на работу, а за гэтымі жэўжыкамі трэба нагляд ды нагляд. Яны ж дасціпныя, усюды ўлезуць.

Гаспадыня прапанавала кватэры – адзінокая 60-гадовая жанчына **Брыгіда Іосіфаўна Дзікевіч**. Мы адразу і звярнуліся да яе з гэтым пытаннем. Яна пагадзілася дапамагчы, але ў нашых думках было шмат пытанняў пра тое, як усё складзецца.

Сама Брыгіда жыла адна. Мела дзвюх сясцёр, адна з іх жыла ў Шчучыне, другая – у Польшчы. Мы пасяліліся ў паўднёвым канцы дома, а ў паўночным – гаспадыня, якая ўзяла да сябе жыць яшчэ дзвюх адзінокіх настаўніц.

У сельсавеце склалі дагавор на арэнду кватэры. Тады сельсавет аплачваў жыллё сельскім настаўнікам. Гаспадыня сама атрымлівала тыя грошы ў сельсавеце.

У вялізным пакоі стаяла адна печка-грубка. Мы з гаспадыняй наладзілі пліту з ляжанкай, размясцілі мэблю, пазавешвалі шторамі і раздзялілі на кухню і два пакоі.

### Гісторыя дома Брыгіды

Сям'я з пяці чалавек – бацькі і трое дзяўчат – жыла ў невялікім доме. Бацька Брыгіды быў майстравы, рабіў вокны, дзверы, печы. Меў задуму пабудаваць для сям'і ўтульны дом з падручнага матэрыялу. Шмат што назапасіў, падрыхтаваўся. Але здарылася непапраўнае. Дзяўчаты яшчэ падлеткі, а памерла жонка.

Гаспадар больш не жаніўся, але задуму з галавы не выкінуў. Распачаў працу. Іосіф быў паважаны чалавек у вёсцы і патрэбны, таму лёгка знаходзіў памочнікаў. Яму так аддзячвалі за працу. Будоўля спорылася, за домам выкапалі кар'ер, каб браць матэрыял на дом. Тут дзеці збіраліся і гулялі.

> **Дом выйшаў на славу на высокім сухім месцы. У доме вялікія пакоі, шырокія падаконнікі, тоўстыя сцены.**

Была і надбудова замест гарышча, якую выкарыстоўвалі для гаспадарчых патрэбаў. Пад лесвіцай і калідорам быў склеп з трох адсекаў, і нават зрабіў такія прыступкі, як палічкі для нарыхтовак і слоікаў. Дом быў такі зручны, што падобнага нідзе не бачылі. Асобна ў загарадках ляжала бульба, агародніна, асобна стаялі бочачкі з кіслай капустай і агуркамі. Нават суседзі захоўвалі тут капусту зімой.

Дочкі падрасталі, дзвюх з іх бацька выдаў замуж, застаўся з меншай Брыгідай. Неўзабаве памёр і сам. Брыгіда засталася адна, сама вяла гаспадарку. Зямлі мела два гектары і невялікую палоску сенажаці. Трымала карову, кабанчыка і некалькі курак. Падспор'е даваў дом, у якім размясцілі школу і кватарантаў.

> **Брыгіда была хваравітая, пакутавала на эпілепсію. Прыпадкі здараліся адзін-два разы на год. Першыя некалькі год мы пра хваробу і не ведалі.**

За гэты дом Брыгіду хацелі раскулачыць. Выратавала толькі тое, што быў мізер зямлі, адна карова. Ды і людзі ў вёсцы падпісаліся, што пры пабудове Іосіф наёмнай працай не карыстаўся.

### Стала членам сям'і

За час, што жылі разам з Брыгідай, мы зразумелі, што гэта добрая, працавітая, умелая гаспадыня, справядлівая жанчына, якая ніколі нікому не зробіць шкоду. Да дзяцей ставілася строга, патрабаванні былі канкрэтныя, непаслушэнства не цярпела. Разам з тым адносілася сардэчна, шкадавала, клапацілася. Неапранутых на вуліцу не выпускала. Яны яе любілі, па пятах хадзілі. Часта гулялі ў кар'еры, у дрэннае надвор'е мелі прыстанішча на другім паверсе, там была іх гульнявая пляцоўка. Закон добрых паводзінаў увайшоў у звычку.

Брыгіда стала нам як член сям'і. Зімой яна часта вязала. З калгаса ёй прывозілі латаць мяхі. Была заўсёды дома, а дзеці пры ёй. А колькі ведала казак! Цікава апавядала, а потым прасіла дзяцей пераказаць. Яны пераказвалі з ахвотай – адзін расказвае, другі папраўляе.

### Тэатр ценяў

Як дзеці пайшлі ў школу, выпытвала іх, чаму навучыліся. Доўгімі зімовымі вечарамі бавіліся ў тэатры ценяў. Брыгіда так складала пальцы рук, што на сцяне адбіваліся цені звярка ці птушкі. Зайкі варушылі вушкамі, воўк клацаў зубамі, варона ляцела, гусак раскрываў і закрываў дзюбу. А дзеці ўсяму гэтаму вучыліся. Часам удавалася разам скласці які-небудзь сюжэт. Мы з мужам пішам планы, а дзеці тэатр ценяў ставяць.

Ужо пазней я знайшла ў часопісе «Сям'я і школа» такія цені, але Брыгіда яго не бачыла. На тэатр ценяў прыходзілі і дзеці суседскіх настаўнікаў. У гэтым тэатры ўсе былі і выканаўцы, і гледачы.

> **Яшчэ Брыгіда любіла складаць вершы, і дзяцей вучыла падбіраць рыфму.**

Аднойчы ў калгасе быў справаздачны сход. На такіх сходах прысутнічалі ўпаўнаважаныя з раёна. Яна выступіла, каб выказаць крыўду на старшыню, што дае ёй норму цукровых буракоў, якую яна не можа апрацаваць і мае даведку ад доктара. Сваё выступленне яна закончыла: прадсядацель упраўляе, на балезні не зважае, бальным нормы надзяляе.

> **Назаўтра старшыня на яе накінуўся ледзь не з кулакамі: «Ты яшчэ, кулацкая твая морда, будзеш вершы на мяне складаць!».**

Малако ад каровы мы куплялі, яна заўсёды налівала дзеткам кубачкі цёпленькага. За догляд дзяцей грошай не брала. Казала, што яна іх не гадуе, а з імі весялей бавіць час, ды і памочнікаў мае. Мой муж у многім ёй дапамагаў. Касіў сена для каровы, сек дровы, насіў ваду ў хату.

**Яўгенія КУЛЕВІЧ,**
**Смаргонскі раён.**

*Заканчэнне будзе.*

# Таршэр

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці вартую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Алеся Каролік: «Некаторыя не разумеюць свайго шчасця»

**Герой восьмага выпуску «Таршэра» – Алеся Каролік з Маладзечна. Маладая жанчына працуе педагогам-арганізатарам у Маладзечанскім музычным каледжы імя Агінскага, узначальвае «Фонд Агінскага» і каардынуе «Свет моладзі».**



Фота з архіва «РГ».

Алеся Каролік.

Калі вучылася ў школе, мяне было не прымусіць прачытаць які твор ці схадзіць на выставу. Толькі напрыканцы каледжа мая сяброўка заразіла мяне любоўю да чытання. Ад гэтага часу пачаўся мой шлях да пазнання сябе.

Зразумела, што мой спіс значна большы, але трэба было адабраць толькі 10 твораў. Таму – лавіце!

### 1. Серыял «Чорнае люстэрка»

Адкрыла для сябе гэты серыял год таму. Кожная серыя – новы выпадак, новая гісторыя. Агулам гэта пра тое, наколькі мы залежым ад сродкаў тэхнічнай эвалюцыі, пра шматлікія жыццёвыя пастулаты. Можа, нават пра нашу будучыню. Калі зможаце дагледзець першую серыю да канца, то серыял ваш.

### 2. Серыял «Палавое выхаванне»

Я параіла б паглядзець яго ўсім тым, хто працуе з моладдзю, асабліва выкладчыкам старэйшага ўзросту. Серыял пра палавое выспяванне падлеткаў у старэйшых класах, пра станаўленне іх сэксуальных густаў, пра сяброўства, каханне і шмат іншага.

### 3. Карціна рускага мастака Іллі Рэпіна «Іван Грозны і сын яго Іван 16 лістапада 1581 года»

Напэўна, пакуль я не сустрэлася з гэтым творам, не магла сябе далучыць да аматараў выяўленчага мастацтва і жывапісу. У 2013 годзе пашчасціла пабачыць гэту карціну ў Маскве. Памятаю, нібыта гэта было ўчора: паўсюль карціны, карціны і вось яна.

Першае, што заўважыла – чорны колер. Не ведаю, што ў ім было такога, але ж падавалася, што ён усюды. Ён зачароўваў і пужаў адначасова. Наступнае – вочы герояў, іх позірк. Жах у іх вачах адлюстраваны настолькі дакладна, што падавалася, яны рэальныя і проста перад табой. З гэтага пачалася мая любоў да выяўленчага мастацтва.

### 4. Кніга Visual Facilitation Cookbook

Мая першая кніга на англійскай мове. Гэта кніга – файны дапаможнік для тых, хто выкладае ці праводзіць воркшопы і трэнінгі. Асноўная мэта кнігі – паказаць шматлікія спосабы візуалізацыі інфармацыі ў больш прывабным варыянце.

### 5. Элвіс Прэслі Love Me Tender і Can't Help Falling In Love

Пагаворым крыху пра музыку. Як музыканта мяне цікавіць самая розная музыка, усё залежыць ад настрою.

Апошнім часам захапляюся Элвісам Прэслі. Дзве яго кампазіцыі не даюць супакою – Love Me Tender і Can't Help Falling In Love. Словамі гэта немагчыма апісаць, таму прапаную вам знайсці кампазіцыі, паслухаць і атрымаць асалоду.

### 6. Павел Севярынец «Люблю Беларусь»

Гэта кніга падыдзе тым, хто яшчэ не напоўніўся беларушчынай ці знаходзіцца на пачатку гэтага шляху. Кніга апісвае самыя розныя сферы нашай краіны.

Прываблівае, што тэксты кароткія, усяго на пару старонак, заўсёды ёсць ілюстрацыя. Чытаючы кнігу, адчуваеш, наколькі аўтар любіць наш край, заражаешся гэтай любоўю. Пачынаеш разумець, што ёсць шмат розных рэчаў, якімі мы можам і павінны ганарыцца.

### 7. Фотавыстава Hard Truths: An exhibition of prize-winning photography from The New York Times у Люксембургу

У аснове сюжэту выставы ляжаць розныя падзеі, якія адбываліся апошнім часам на Кубе, у Сірыі, Венесуэле. Разбураныя будынкі, людзі ў клетках, трупы, кроў – усё гэта з'яўляецца своеасаблівым ацверажэннем для людзей, якія жывуць у добрых умовах і не разумеюць свайго шчасця.

### 8. Ніл Гілевіч «Родныя дзеці»

Раман у вершах. Сюжэт просты: дзеці прыехалі да маці на дзень народзінаў, у кожнага свой лёс, свае ўспаміны.

Для мяне большую цікавасць уяўляюць адступленні. Калі вам скажуць, што беларусы ядуць толькі бульбу, смела адкрывайце «Адступленне пятае – кулінарнае». Пералічаных варыянтаў страў на тыдзень хопіць. Маю і іншую сувязь з гэтым творам. Мая стрыечная сястра ў дзяцінстве называла мяне «Альжбета Францаўна Кудзёлка». Дык вось уявіце маё здзіўленне, калі, напэўна, гадоў праз 15 я адкрыла гэты твор і прачытала:

*«...Сцяпану ў сэрца, як іголкай,*
*Кальнула:*
*«Вось дык навіна!*
*Альжбета Францаўна Кудзёлка!*
*Няма сумнення, што яна...».*

### 9. Макс Фрай «Ключ з жоўтага металу»

Гэта гісторыя пра маладога мужчыну, які асабліва не мае мэты ў жыцці, а проста бавіць час. Аднойчы бацька заве яго да сябе ў Вільню і дае даручэнне. Пасля гэтага з героем адбываюцца незвычайныя рэчы. На мой погляд, гэта такое лёгкае фэнтэзі. Мне дапамагло ў свой час пераагрузіцца і адцягнуць увагу ад праблемаў.

### 10. Джаан Роўлінг «Гары Потэр»

Я нават не ведаю, як гэта назваць, ці то кніга, ці то гісторыя, ці то цэлая эпоха. Але гэты твор знаходзіцца ў топе ўсяго, што я чытала. Напэўна, таму, што я расла з гэтымі кнігамі.

Я проста прагнула часткі адну за адной. Мой рэкорд: «Ордэн Феніксу» я прачытала за два дні. А там амаль 900 старонак. Я захапляюся геніяльнасцю Джаан, асабліва тым, як яна прапісала героя Северуса Снэйпа. Калі вы яшчэ не дайшлі да гэтай гісторыі, то абавязкова знайдзіце час. Гэта таго вартае.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Чаму ў 1918 годзе Беларусь не стала незалежнай краінай

**25 сакавіка будзе 102 гады з дня ўтварэння БНР. «Рэгіянальная газета» распавядае, у якіх знешнепалітычных умовах стваралі Беларускую Народную Рэспубліку і чаму ў 1918-м яе не прызналі ў свеце.**




Беларусь абвясцілі незалежнай дзяржавай 25 сакавіка 1918 года.

### Народ стаміўся, народ хоча міру

У кастрычніку 1917 года да ўлады ў Расійскай рэспубліцы прыходзяць бальшавікі. Часовы Урад, які зрабіў з імперыі рэспубліку ўсяго некалькі месяцаў таму, ліквідавалі. У кастрычніку 1917-га лозунгі, з якімі прыйшлі саветы, становяцца не простымі патрабаваннямі. Адным з галоўных становіцца «Мір народам!».

У гэты час Расія ўдзельнічала ў вайне ўжо тры гады. Настроі ў войску былі антымілітарысцкія. Беларуская зямля была ўся ў акопах, на ёй вяліся баявыя дзеянні і спыняцца ніхто не меў намеру. Мінімальныя поспехі расійскай арміі, кшталту Брусілаўскага прарыву ў 1916, суправаджаліся пад'ёмам баявога духу.

> Аднак ужо ў 1917 годзе жаданне ваяваць змянілася жаданнем як мага хутчэй завяршыць вайну.

Часовы Урад не прапанаваў рашэнне, а Саветы адразу пачалі дзейнічаць. Нарком па замежных справах Леў Троцкі прапанаваў краінам Антанты заключыць мірнае пагадненне. Антанта маўчала. А Германская імперыя наадварот зрэагавала: мірныя перамовы пачаліся ў лістападзе 1917 года.

Расія прапаноўвае мірны дагавор без анексіі і кантрыбуцый. Германія кажа, што пагодзіцца на такі дагавор, калі краіны Антанты таксама пачнуць перамовы. Антанта ніяк не рэагуе, таму немцы на сваіх умовах дыктуюць будучы мір. Частка германскіх галоўнакамандуючых выступіла за жорсткія ўмовы для Расіі. Расійскі бок адправіўся раіцца з Леніным. Асноўная частка перамоў адбылася ў 1918 годзе. І тады з'явілася новае пытанне – самавызначэнне нацый.

### Беларусь – частка Расіі, і яна не можа быць незалежнай

Бальшавікі лічылі Беларусь неад'емнай часткай будучай сацыялістычнай дзяржавы. Ленін лічыў РСФСР пераемніцай Расійскай імперыі. Усе тэрыторыі і народы могуць быць аўтаномнымі, але толькі ў складзе савецкай краіны. Таму ў брэсцкіх перамовах Расія адштурхоўвалася ад гэтага пункта гледжання.

Усё змянілася пасля Украіны. У снежні 1917-га Украінскую Народную Рэспубліку прызналі Саветы, а на брэсцкіх перамовах з ёй лічылася нават Германія з Аўстра-Венгрыяй. Будучае кіраўніцтва БНР глядзела на прыклад Украіны. Аднак пагадненне з Германіяй наконт завяршэння Першай сусветнай вайны будзе праходзіць, не улічваючы інтарэсы былога Паўночна-Заходняга краю.

Лёс Беларусі абмяркоўвалі без яе прадстаўнікоў: дэлегацыю не дапусцілі да ўдзелу ў мірнай канферэнцыі. Германія патрабавала ад Расіі тэрыторыю плошчай 150 тысяч квадратных кіламетраў. Такім чынам, значная частка Беларусі апынулася б на ўладанні нямецкай дзяржавы, а другая – у руках бальшавікоў.

Троцкі адправіўся абмяркоўваць гэтыя ўмовы ў Санкт-Пецярбург. У гэты ж час на тэрыторыі Украіны пачалося паўстанне бальшавікоў. Мірныя перамовы бакі працягнулі ў напружаных умовах. Германія і Расія спекулявалі спрэчнымі тэрыторыямі – Украінай, Беларуссю, балтыйскімі краінамі, – каб выбіць больш выгадныя ўмовы для сябе.

Пытанне пра самавызначэнне нацый было не такім важным, як падавалася на першы погляд. Ні Германіі, ні Савецкай Расіі незалежнасць гэтых тэрыторый не была патрэбная ў 1918 годзе.

### «Хай жыве Незалежная Беларусь!»

На фоне перамоў паміж Расіяй і Германіяй у Беларусі адбываліся значныя палітычныя падзеі. Беларускія палітычныя дзеячы зразумелі, што Саветы не дадуць незалежнасць, а Германія пастаянна ўхілялася ад гэтага пытання.

19 лютага Ленін накіраваў Германіі тэлеграму – ён пагадзіўся з умовамі міру. У гэты час германскія войскі занялі практычна ўсю тэрыторыю Беларусі. Савецкае кіраўніцтва ў Беларусі эвакуіравалі, а Рада БНР абвясціла, што ўзяла ўладу ў свае рукі.

21 лютага Рада БНР публікуе Першую Устаўную грамату, дзе паўтараюцца словы аб узяцці ўлады. Пра незалежнасць ці аўтаномію ў ёй нічога не кажуць.

Трэцяга лютага Расія і Германія падпісваюць Брэсцкі мір. У адказ на мірнае пагадненне 9 сакавіка прайшло пасяджэнне Выканаўчага камітэта Рады БНР. На ім прынялі Другую Устаўную грамату, у якой прапісвалася, што ў этнічных межах беларускага народа ствараецца Беларуская Народная Рэспубліка.

Устаўную грамату юрыдычна не змагла прызнаць Германія, якая ратыфікавала Брэсцкі мір. Акрамя знешняй палітыкі на БНР уплывалі супрацьстаянні ў самой Радзе.

> Склад Рады БНР быў неаднародны, там былі прадстаўнікі розных палітычных партый і плыняў. Усе, безумоўна, не прызнавалі Кастрычніцкую рэвалюцыю, але не ўсе пагаджаліся жыць асобнай краінай ад Расіі.

На пасяджэнні ноччу з 24 на 25 сакавіка Рада прыняла Трэцюю Устаўную грамату. У ёй абвясцілі, што Беларусь становіцца незалежнай краінай. Будучы кіраўнік БНР у выгнанні **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** у той час вучыўся ў будслаўскай школе і ўспамінае, што настаўнікі з натхненнем успрынялі навіну аб стварэнні беларускай дзяржавы:

– Наш дырэктар Васілевіч, узрушаны і вясёлы, хадзіў па ўсіх класах і дзяліўся з вучнямі гэтай радаснай навіной. «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла незалежнасць Беларусі, наш край будзе вольны і незалежны, як калісь даўней. Будзе мець свой урад, войска, урадніксаў, скарб і школы. Цяпер беларусы самі будуць гаспадарамі на сваёй зямлі і не будзе ўжо нас трывожыць і страшыць чужое войска і паліцыя», – тлумачыў ён. Вучні слухалі гэтыя словы з вялікім зацікаўленнем і ўвагай, хоць многія яшчэ і не разумелі ўсёй важнасці гэтай гістарычнай падзеі ў жыцці Беларусі.

Аднак не ўсе былі натхнёныя. З-за выдання граматы са складу Рады выйшлі некаторыя партыі, з'яўляюцца новыя і яны пачынаюць барацьбу паміж сабой. Так пачаўся палітычны крызіс БНР. Аднак гэта не адзіная прычына, чаму Беларуская Народная Рэспубліка не атрымала падтрымкі іншых краін і народа.

### Чаму ў БНР не атрымалася?

Усе прычыны можна падзяліць на тры часткі:

**1. Знешняя палітыка**. Германія лічыла тэрыторыю Беларусі часткай Расіі, якую яна аддала ў якасці кантрыбуцый пасля Брэсцкага міру. Германія не прызнавала БНР. Іншыя заходнееўрапейскія краіны таксама адмаўляліся прызнаваць незалежнасць. Ніводная дзяржава, як распавядаюць гісторыкі з Польшчы, Германіі і Беларусі, не прызнала юрыдычна БНР. Савецкая Расія таксама не прызнала незалежнасць БНР. У 1919 годзе на тэрыторыі чатырох беларускіх губерняў і двух паветаў утварылі БССР, яшчэ праз 10 год двойчы ўзбуйнілі тэрыторыю. Рада БНР ад 1919 года працуе ў выгнанні.

**2. Падтрымка шырокіх мас**. У пачатку БНР не знайшла падтрымкі шырокіх мас. Незалежную беларускую краіну стварылі ў неспрыяльных умовах: існаванне пад акупацыяй, якую просты народ успрымаў варожа. Палітычныя рашэнні прымаліся без удзелу простага беларускага народа. Партыі казалі, што першапачатковае пытанне – нацыянальнае самавызначэнне. Аднак пасля доўгай чатырохгадовай вайны народ думаў пра мір і дабрабыт.

**3. Унутрыпалітычны раскол**. Пасля Трэцяй Устаўной граматы частка партый выйшла са складу Рады. Беларуская сацыялістычная грамада – першая беларуская партыя – развалілася, на яе глебе з'явіліся іншыя палітычныя адзінкі. Склад Рады абнаўляўся, яна не змагла своечасова прымаць рашэнні і стаць уплывовым палітычным органам.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Фота Андрэя РАПІНСКАГА.

«Андэрдог» не згуляе ў першай лізе. «Маладзечна», меркавана, выступіць у другой.

# «Маладзечна» і «Андэрдог» не аб'яднаюць

**На працягу двух месяцаў – студзеня і лютага – спартыўную супольнасць Маладзечаншчыны скаланала навіна пра аб'яднанне ФК «Маладзечна» і чысцінскага «Андэрдога».**

Аб'яднаная каманда павінна была згуляць у першай лізе, а бюджэт толькі напалову складала дзяржфінансаванне. Ініцыятарам ідэі выступіў маладзечанскі райвыканкам і «Андэрдог». Маладзечанская каманда і фанаты катэгарычна ўспрынялі магчымае аб'яднанне. 16 сакавіка стала вядома, што «Андэрдог» згуляе ў першай лізе, а «Маладзечна» застанецца ў другой лізе, нягледзячы на тое, што каманда забяспечыла сабе месца ў дывізіёне рангам вышэй.

«Рэгіянальная газета» распавядае, як з'явілася і памерла ідэя аб'яднанага клуба Маладзечаншчыны.

## «Маладзечна» рыхтуецца да сезона, а райвыканкам адклікае лісты ў АБФФ

**22 студзеня** «Маладзечна» адправіла ліст у АБФФ, якое пацвердзіла ўдзел у першай лізе сезона-2020.

**31 студзеня** аддзел спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама як прадстаўнік заснавальніка адклікаў ліст за подпісам **Рамана Кузняцова** пра гатоўнасць клуба «Маладзечна» згуляць у першай лізе. Улады адмовіліся несці поўную фінансавую адказнасць за ўдзел каманды Д2. Чыноўнікам не спадабалася, як у 2019-м працавала «Маладзечна» і якія сумы фігуравалі ў кантрактах.

**3 лютага** федэрацыя дапусціла «Маладзечна» да ліцэнзавання, калі клуб нават не з'яўляецца сябрам АБФФ.

**5 лютага** ўладальнік «Андэрдога» **Аляксей Ерамчук**, які займаецца бізнесам у Расіі («Тэсла Клаб») і з'яўляецца пляменнікам дырэктара клуба **Мікалая Мятліцкага**, накіраваў ліст кіраўніку Мінаблвыканкама **Аляксандру Турчынаву**. У звароце прапанаўвалі аб'яднаць «Андэрдог» і «Маладзечна», захаваўшы назву за першай камандай, сфарміраваць бюджэт клуба ў роўных долях і праводзіць матчы ў Маладзечне.

**13 лютага** начальнік аддзела спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама Раман Кузняцоў распавёў, што кіраўніцтва «Маладзечна» не ўзгадняла з мясцовымі ўладамі свой удзел у першай лізе, таму з заяўкай будуць праблемы. Таксама чыноўнік заявіў, што не выключае зліццё двух клубаў. З «Андэрдогам» да таго моманту ўжо пачаліся перамовы.

У гэты ж дзень «Маладзечна» выступіла з заявай, што каманда ўсё роўна рыхтуецца да першай лігі, а 90 працэнтаў бюджэту ўжо сфарміравана спонсарамі.

**14 лютага** галоўны трэнер і выканальнік абавязкаў дырэктара «Маладзечна» **Аляксей Вяргеенка** распавёў, што Кузняцоў паралізаваў усю працу па ліцэнзаванні каманды ў першай лізе. Паўабаронца «зялёна-белых» **Алег Страхановіч** назваў такое стаўленне прыкладам пахавання беларускага футбола. Раман Кузняцоў наракаў на малую колькасць мясцовых выхаванцаў у складзе «Маладзечна» і засілле ўзроставых гульцоў з боку.

**16 лютага** старшыня федэрацыі футбола Маладзечанскага раёна дэпутат Маладзечанскага раённага Савета **Андрэй Душэўскі** засумняваўся ў праўдзівасці заяў Кузняцова пра лік дамарослых футбалістаў у складзе «Маладзечна». Таксама дэпутат абверг словы Ерамчука пра маладзечанскага трэнера і незразумелых людзей на лаўцы запасных. Душэўскі нават не выключаў суда паміж «Маладзечнам» і ўладальнікам «Андэрдога».

## Аб'яднанне адны асуджаюць, а іншыя падтрымліваюць

**17 лютага** спартыўны журналіст **Мікалай Хадасевіч** стаў на бок «Маладзечна», назваўшы аб'яднанне клубаў дрэннай ідэяй. Сам Хадасевіч родам з Маладзечна.

**25 лютага** начальнік галоўнага ўпраўлення спорту і турызму Мінаблвыканкама **Яўген Булойчык** падтрымаў аб'яднанне камандаў, заявіўшы пра «дзяржаўна-прыватнае партнёрства». Паводле яго слоў, няправільна разлічваць выключна на дапамогу з бюджэту. У той жа дзень з'явілася інфармацыя пра магчымага новага галоўнага трэнера «Андэрдога» **Сяргея Бойку**.

**3 сакавіка** тэлеканал «Беларусь 5» раскрыў бюджэт аб'яднанай каманды – прыкладна 400 тысяч рублёў. Пры гэтым дырэктар «Андэрдога» **Аляксей Пінчук** распавёў, што «трэба сыходзіць ад бюджэтных грошай і вучыцца зарабляць самім».

**10 сакавіка**, па словах Кузняцова, улады раёна з-за адсутнасці сродкаў не маюць намеру папоўніць бюджэт новага клуба нават напалову. Як аказалася, «Андэрдог» да гэтага часу не падаў усе неабходныя дакументы для праходжання ліцэнзавання ў першай лізе.

**13 сакавіка** «Прессбол» распавёў, што «Андэрдог» будзе выступаць у першай лізе. ФК «Маладзечна» працягне існаванне, аднак згуляе толькі ў другой лізе. Раман Кузняцоў адзначыў, што дзяржаўнага фінансавання хопіць для маладзечанскай каманды толькі для трэцяга дывізіёна.

**16 сакавіка** АБФФ адмовіла ў ліцэнзаванні «Андэрдогу». «Рэгіянальная газета» працягвае сачыць за лёсам маладзечанскага футбола.

Ідэя аб'яднання ўсё яшчэ застаецца. Вядома, што пасля сезона-2020 райвыканкам зноў будзе разглядаць такую магчымасць.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Нягоднік, гарэза, свавольнік.
6. Дробныя, як пясок, сухія рэшткі сапрэлага або паточанага шашалем дрэва.
7. Па меркаванні вучоных, трэць насельніцтва інфіцыраваная палачкай Коха, новы выпадак заражэння адбываецца кожную секунду. Ад хваробы памерлі многія знакамітасці: Максім Багдановіч, Франц Кафка, Эмілія Бронтэ.
8. Пярэдняя частка ніжняй сківіцы.
9. Гэту пустыню на афрыканскім узбярэжжы Атлантычнага акіяна лічаць самай старажытнай у свеце.
10. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
12. Грашовае або іншае матэрыяльнае заахвочванне як узнагарода за поспехі, заслугі.
13. Расплаўленая сілікатная маса высокай тэмпературы, якая ўтвараецца ў глыбінях зямлі.
16. Збудаванне для пераходу або пераезду цераз раку, канал, чыгунку.
17. Маладое пакаленне, бліжэйшыя патомкі.
18. Як называецца рэфлекторная рэакцыя арганізма, накіраваная на паляпшэнне забеспячэння органаў кіслародам пры скапленні ў крыві вуглякіслага газу.
20. Як у народзе называюць самую масавую пандэмію грыпу за ўсю гісторыю чалавецтва, ад якой ахвяр больш, чым ад ваенных дзеянняў у Першую сусветную вайну.
21. Менавіта яны разносілі малярыю і пасадзейнічалі такому распаўсюджанню хваробы.
25. Пераносчыкі ўзбуджальніка інфекцыі бубоннай чумы.
26. Масавы сход для абмеркавання палітычных або іншых надзённых пытанняў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дастатак, матэрыяльная забяспечанасць.
2. Яўгенія Янішчыц: «Было. Былі. Была! Мне ... не да твару. Я тая, што прайшла Трагедыяй пажару».
4. Так называюць сукупнасць найбольш спрыяльных кліматычных умоў. Напрыклад, у час сярэднявечнага цёплага перыяду 950-1250 гадоў было роўнае і мяккае надвор'е. У гэты перыяд адбыўся рост насельніцтва і сельскагаспадарчай прадукцыі ў Еўропе.
5. Прасоленая або правэнджаная маладая свініна асобага прыгатавання.
6. Незапоўненае месца ў тэксце, пропуск.
11. Плечавы або паясны рэмень, да якога прышпільваецца халодная зброя, палявая сумка.
13. Афіцэрскае званне ў арміі, вышэйшае за званне капітана.
14. Рэчы пасажыра, падрыхтаваныя для перавозкі.
15. Ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці.
17. Перад тым, як пачынаецца раніца.
19. Металічны стрыжань у звоне, які пры ўдарах аб яго сценку ўтварае гук.
22. Палажэнне, якое вырашае тую або іншую заканамернасць.
23. У гэты перыяд гісторыі ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе існавала культура звонападобных шклянак.
24. Некаторыя харчовыя тавары: мука, крупы, цукар, а таксама прыправы.

## Адказы на крыжаванку з №11

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Голас. 5. Грукат. 7. Сімулянт. 9. Ордэр. 11. Зразы. 13. Опера. 14. Лесвіца. 17. Панізнік. 19. Ладдзя. 21. Лампада. 23. Кошкі. 25. Шчара. 26. Гусь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Вогнепаклоннікі. 3. Слесар. 4. Знарок. 6. Зямля. 7. Сістэма. 8. Лорд. 10. Клей. 11. Зорка. 12. Гурток. 15. Зычны. 16. Алмаз. 17. Псіха. 18. Скарб. 20. Сківіца. 22. Лімон. 24. Караль.



● ГАРАСКОП НА 20-26 САКАВІКА

## Як вам засцерагчы здароўе

**АВЕН.** Вам трэба берагчы сябе ад залішне інтэнсіўных фізічных нагрузак. Пастарайцеся пазбягаць практыкаванняў, асабліва калі не ўпэўненыя, што асіліце. Варта звярнуцца да мінімальнай праграмы нагрузак.

**ЦЯЛЕЦ.** У гэты перыяд вы можаце паказаць выдатныя спартыўныя вынікі. Калі не атрымаецца пазбегнуць захворвання, адразу ж адмаўляйцеся ад працы. Заставайцеся дома і набірайцеся сіл. Некалькіх дзён, каб адляжацца, можа быць дастаткова.

**БЛІЗНЯТЫ.** Важна ўлічваць, што адпачынак для здароўя значыць не менш за іншыя рэчы. Высыпайцеся ў праветраным памяшканні, менш часу праводзьце ў гаджэтах. Лепш прысвячайце вольны час размовам з блізкімі людзьмі.

**РАК.** Вам важна прымяняць прафілактычныя сродкі, каб не захварэць. Засцерагайце сябе ад рызыкі і прымайце папераджальныя меры. Адчувайце арганізм і свой стан, сачыце за зменамі. Калі своечасова заўважыць хваробу, паправіцца будзе нашмат лягчэй.

**ЛЕЎ.** Апранайцеся па надвор'і, трымайцеся правілаў прафілактыкі вірусных інфекцый. Калі спатрэбіцца прайсці лячэнне, абавязкова праходзьце ўвесь курс цалкам. Усе працэдуры для паляпшэння здароўя пойдуць на карысць.

**ДЗЕВА.** Беражыце сябе, у першую чаргу, – свой эмацыйны стан. Ад псіхікі і стрэсаў залежыць вельмі многае. Калі вы настроіце сябе на добрае і не станеце паддавацца сумным думкам, вы ўзброіце арганізм супраць хвароба́ў.

**ШАЛІ.** Вам проста неабходна як мага больш свежага паветра. Звычайныя прагулкі па парку могуць стаць тым фактарам, які засцеражэ ад хваробаў. Калі няма такой магчымасці, пастарайцеся забяспечыць свежае паветра ў сваім доме.

**СКАРПІЁН.** Вельмі важна вылучаць час на тое, каб займацца фізічнымі практыкаваннямі. Але пастарайцеся правільна сябе матываваць, каб не кінуць справу ў першыя ж хвіліны. Неабходна знайсці час на тое, каб аднавіць сілы.

**СТРАЛЕЦ.** Пастарайцеся не мяняць звычайны лад жыцця. Толькі абмяжуйце сябе ад тых падзей, у якіх няма пільнай патрэбы. Не забывайце пра правільнае харчаванне і прыемныя вечары з блізкімі людзьмі.

**КАЗЯРОГ.** Старайцеся пазбягаць інфекцый, трымаючыся рэкамендацый дактароў. Беражыце свае нервы, менавіта складанасці з імі могуць прынесці непрыемныя наступствы.

**ВАДАЛЕЙ.** Добры час для перамен у жыцці. У тым ліку добра прывыкнуць да прывычак для здароўя, якія вы пачняце выконваць у гэты перыяд. Чым больш вы будзеце старацца зберагчы сябе, тым лепш у вас атрымаецца.

**РЫБЫ.** Калі ўзнікнуць складанасці са здароўем, не адкладвайце візіт да доктара. Захоўвайце пазітыўны эмацыйны стан і старайцеся добра адпачываць.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | 7 | | 6 | | 1 | | |
| 5 | | | | | | | 3 | |
| 1 | 3 | | | | | 9 | 8 | |
| 2 | | | | | | | 1 | 3 |
| 6 | | | | | | 4 | | 9 |
| 4 | 1 | | 2 | | | 7 | | |
| 7 | | | | | | 6 | 5 | 4 |
| 8 | | | | | | | 9 | 2 |
| | 6 | 4 | | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

● #РГ25

## Вова Буркевіч, вучань Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаця:

# «У газеце мог прачытаць пра сябе, сваю сям'ю і ўласныя захапленні»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначае 25-годдзе. Сёння прымаем віншаванні і цёплыя словы ад нашага чытача з Ільі, дзесяцікласніка Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаца Вовы Буркевіча.**

– Хачу павіншаваць з 25-годдзем любімую «Рэгіянальную газету» з 25-годдзем. Жадаю рэдакцыі заставацца такой жа цікавай і пазнавальнай. Дзякуй вам за конкурсы, віктарыны, якія ладзіць ваша газета, і, канешне, за падарункі.

З газетай мяне пазнаёміла мама, **Людміла Буркевіч**, вельмі даўно. А я з радасцю працягваю знаёмства.

Люблю раніцай зайсці на сайт rh.by і пачытаць гарачыя навіны «Рэгіянальнай газеты». Было ўдвая прыемна, што там я мог прачытаць і пра сябе, пра ўласныя захапленні, пра свайго брата, пра нашу сям'ю. Гэта дапамагло мне яшчэ больш пераканацца, што я раблю ўсё правільна. Мае дзіцячыя захапленні, пра якія некалі пісала «Рэгіянальная газета», дапамаглі мне вызначыцца з выбарам далейшага жыццёвага шляху.

Дзякуй вам, што вы ёсць! І дзякуй за вашы матэрыялы – на роднай мове!

***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**



## Чытайце праз тыдзень:

- **Як можа выглядаць новы гандлёвы цэнтр на Касманаўтаў у Маладзечне? Чытайце і глядзіце фота праз тыдзень.**

## 21 сакавіка, субота

**Вецер:** паўночны, 5-6 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -23°С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +18,7°С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,2 мм у 2004 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як вы засцерагаеце сябе ад вірусаў?



**Святлана Клімовіч, пенсіянерка, Маладзечна:**
– Трактарам і гарэлкай. Вось сёння выклікала доктара, можа ён нешта слушнае скажа.



**Ірына Абрамовіч, гаспадыня, Вілейка:**
– Мы жывём у невялікім мястэчку, таму абмежавалі выезд у горад, не наведваем мерапрыемствы, ну, і заўсёды стараемся мыць рукі. Як мага менш кантактуем з людзьмі.



**Марыя Завадская, пенсіянерка, Вілейка:**
– Сяджу дома, п'ю морс з парэчак, ем лімоны. А зяць раіць яйчэ выпіваць па сто грамаў гарэлкі або канькаку. Кажа, ці – ад чаго-небудзь ды і дапаможа.



**Дыяна Баўтрук, гаспадыня, Вілейка:**
– Толькі шмат піць і менш знаходзіцца ў грамадскіх месцах.



**Андрэй Дударчык, дырэктар кінатэатра, Вілейка:**
– Абмежаванне ў кантактах, чыстыя рукі і апрацоўка антысептыкам. Гэты дзейсны мінімум, які не патрабуе ніякіх сур'ёзных затрат, акрамя ўласнай увагі. А яшчэ для інфармацыі, любы вірус баіцца спіртазмяшчальных прэпаратаў і пераксісу вадароду.



**Таццяна Вашкевіч, повар, Маладзечна:**
– Мыю рукі часта, апрацоўваю антысептыкам.



**Аляксандр Герасімовіч, мантажнік, Маладзечна:**
– Пярцовай настойкай!

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№12 (1299) 20.03.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 475. Падпісана ў друк у 9.00 19.03.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.